ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№36 (2542)

4 верасня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.



## ЛЕТАПІСЕЦ НАШЫХ ДЗЁН

### ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 80 ГАДОЎ

Аднойчы пакрыўдзіўся на мяне знаёмы навуковец, чаму я не прачытаў яго манаграфію пра "Новую зямлю" Якуба Коласа. "А навошта мне яе чытаць? Я чытаю паэмы, усё разумею, бачу, як жывое, радуюся, смяюся, часам сціраю слязу". І нагадаў радкі Блока: "Баюся зрабіцца здабыткам дацэнта і крытыкаў новых пладзіць". Паэзію трэба не "разбіраць", а чытаць, адчуваць, хваляваца, радавацца і абурацца разам з аўтарам. Паэзія звернута да душы.

Сведчанне таму — грамадзянская, мудрая, сумленная, смелая і бескампрамісная лірыка Пімена Панчанкі. Перачытваеш і кожны раз пераконваешся, як ён зорка ўглядаўся ў будучыню, як разумеў сучаснае і хітра схаванае патаемнае, як ён далёка бачыў. "У паэта павінна быць не кар'ера, а лёс", — сцвярджаў той жа Аляксандр Блок. Лёс наканаваў Пімену Панчанку быць Паэтам, паэтам шчырым, шчодрым, усеабдымным, мяккім і дасціпным, якім ён і быў. Балюча і горка пісаць "быў". Ён ёсць і будзе.

Калі я часам дазвоньваўся да яго, свет здаваўся паўнейшы, багацейшы на сапраўдны талент дабраты, шчырасці і адвагі. Усе аматары паэзіі чакалі новых вершаў, цыклаў Пімена Панчанкі. Пры сустрэчы пыталіся: "Чытаў?" — "Чытаў. Ну, і Пімен! Адкуль столькі мудрасці і адвагі?" Чыталі больш чым уважліва, з чырвонымі апоўкамі ў руках і тыя, што мусілі чытаць па абавязку, і "мыліць холку" аўтару і рэдактарам.

**НА ЗДЫМКУ: Пімен ПАНЧАНКА (справа) і Мікола НАГНІБЯДА.**
**Фота Уладзіміра КРУКА.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

## БАРБАРА ВЕРЖБАЛОВІЧ

У апошні час шмат славутых беларускіх імён, прызнаных у замежжы, вярнулася на Бацькаўшчыну. Яны сталі вядомы грамадству, дабавілі гонару беларусам за сваіх суайчыннікаў. Немала дзеячаў беларускай літаратуры, мастацтва, культуры, якія апынуліся далёка ад родных мясцін, але ўсё жыццё пачуваліся беларусамі, патрыётамі радзімы і шмат папрацавалі па стварэнню Беларусі за межамі Беларусі, застаюцца ў забыцці. Мы былі гатовы дапамагаць і сябраваць з усім светам, а аб сваіх суродзічах забывалі. Сёння настаў час аддаць руплівцам беларускай справы належную павагу, успомніць іх жыццё і дзейнасць, тым больш, што многіх з іх ужо няма ў жывых. Мы пачынаем разумець, што беларуская культура адзіная, няма сэнсу дзяліць яе на "нашу" і "замежную". Адно з такіх імён, вартых памяці, — Барбара (Варвара) Вержбаловіч.

Пры падрыхтоўцы артыкула пра Вержбаловіч для Беларускай Энцыклапедыі аўтар сутыкнуўся з мізэрнасцю даных пра яе. Многія з тых, да каго я звярнулася па дапамогу, ведалі не больш. Артыкул апынуўся пад пагрозай. Зацікаўленасць павяла ў архівы, хаця асаблівых спадзяванняў не мела, ведаючы, што даваенныя матэрыялы маглі і не ўцалець у пажары вайны. Так і адбылося. Удалося адшукаць літаральна крупінкі, якія дапоўнілі карціну жыцця і дзейнасці Б. Вержбаловіч.

Нарадзілася Барбара ў 1901 годзе ў вёсцы Гарбацэвічы. Бацька, Іван Ганчарэнка, працаваў настаўнікам, а ў вольны час збіраў беларускія народныя песні. Можа менавіта ад гэтага захаплення нацыянальным песенным багаццем дзеці, якіх у сям'і было пяцёра, усе спявалі. Сям'я часта пераязджала з месца на месца. У Маладзечне, дзе прайшлі дзіцячыя гады дзяўчынкі, бацька працаваў выкладчыкам у Настаўніцкай семінарыі. Гімназію Барбара скончыла ўжо ў Бабруйску. Вучаніцай яна пела ў хоры, выступала на школьных вечарах.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*ЦЭНТР ДЗІЦЯЧАЙ АНКАЛОГІІ*

## БЯДА ХОДЗІЦЬ НЕ ПА ЛЕСЕ

**Хутка Рэспубліканскі цэнтр дзіцячай анкалогіі пераязджае ў новы будынак, дзе анкалагічнае аддзяленне будзе побач з гематалагічным, палепшыцца забеспячэнне кампанентамі крыві, з'явіцца магчымасць рабіць такую складаную аперацыю, як трансплантацыя касцявога мозгу. Аднак сёння ёсць усе падставы меркаваць, што пакінуць старыя праблемы ў былым аддзяленні не ўдасца, больш таго, да іх у самы блізкі час прыбавяцца новыя, і як іх вырашаць сёння, не можа сказаць ніхто.**

Апошнім часам медыкі заклапочаны ростам колькасці анкалагічных захворванняў у Беларусі, прывычна лічачы сябе ледзь ці не сусветнымі лідэрамі ў гэтай сумнай галіне. Аднак акрамя эмоцый існуе яшчэ і статыстыка, якая паказвае, што рост ракавых захворванняў — праблема міжнародная. Ёсць у яе і нацыянальныя асаблівасці. Першае адрозненне, якое адразу кідаецца ў вочы: у Беларусі зафіксаваны рэзкі рост выпадкаў раку шчытападобнай залозы ў дзяцей, што, несумненна, з'яўляецца вынікам чарнобыльскай катастрофы. Да аварыі ж штогод фіксаваўся толькі адзін выпадак захворвання на гэтую форму раку. У астатнім — наша статыстыка амаль нічым не адрозніваецца ад статыстыкі ў развітых краінах свету.

Аб прычынах росту анкалагічных захворванняў можна гаварыць доўга — тут і рост колькасці канцэрагенных рэчываў у навакольным асяроддзі, радыяцыя, розныя хімікаты, што атрымліваюць усё большае распаўсюджанне ў нашым жыцці. Што тычыцца дзіцячых пухлін, то яны ў пераважнай большасці з'яўляюцца вынікам шкодных звычак бацькоў. Вялікае значэнне мае і генетычная схільнасць.

Дзіцячыя пухліны складаюць усяго адзін працэнт ад агульнай колькасці анкалагічных захворванняў. У лічбавым выпічэнні гэта значыць, што калі сёння ў Беларусі штогод дыягнастуецца 33 тысячы злаякасных пухлін, дзіцячыя сярод іх складаюць 320—330 выпадкаў. Лечаць іх у нас у Рэспубліканскім цэнтры дзіцячай анкалогіі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*СВЯТА ДЛЯ ЎСІХ*




**Перад пачаткам новага навучальнага года нават гарадскія вуліцы выглядаюць святочна.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*ШВЕЙЦАРЫЯ—БЕЛАРУСЬ*

## ХРОНІКА АДНАГО ВІЗІТУ

Беларусь ад Швейцарыі аддзяляе паўтары тысячы кіламетраў. Адсутнасць агульных межаў, а таксама эканамічных ды палітычных інтарэсаў вызначае і пэўны стыль адносін паміж дзвюма краінамі: у Беларусі няшмат ведаюць пра Швейцарыю, яшчэ менш ведаюць у Швейцарыі пра Беларусь. Аднак такі стан рэчаў зусім не азначае поўнай адсутнасці кантактаў паміж дзяржавамі, якія маюць сваю даўнюю гісторыю. Яшчэ ў часы сярэднявечча беларускія маладзёны-шляхцюкі ездзілі атрымліваць універсітэцкую адукацыю ў Швейцарыю. У XVIII стагоддзі шмат швейцарскіх сем'яў, сагнаных з абжытых месцаў Вялікай французскай рэвалюцыяй і напалеонаўскімі войнамі, накіравалася шукаць лепшае долі ў краінах Усходняй Еўропы, некаторыя з іх стала аселі на жыхарства ў Беларусі. Сёння кантакты паміж дзвюма краінамі ўсё больш пашыраюцца і асаблівы плён прыносяць у галіне культуры.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНА

### СКЛАДАНЫ ДЫЯЛОГ



Перагаворы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і расійскага міністра замежных спраў Яўгена Прымакова, які прыязджаў у Мінск па даручэнню прэзідэнта Б. Ельцына, былі далёка не простымі. Аднак урэшце, як заявіў журналістам пасля перагавораў Прымакоў, "усе вынікі вельмі абнадзейваюць". А па расійскіх інфармацыйных агенцтвах са спасылкай на прэс-службу Барыса Ельцына прайшла інфармацыя, што А. Лукашэнка ў тэлефоннай размове з расійскім прэзідэнтам паабяцаў яму нават у бліжэйшыя дні вырашыць пытанне з вызваленнем з-пад варты журналістаў ГРТ Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага, якія ўжо больш месяца ўтрымліваюцца ў следчым ізалятары Гродна, што, уласна кажучы, і было самай вострай тэмай размовы расійскага міністра і беларускага Прэзідэнта. Паводле слоў А. Лукашэнкі, у час названай тэлефоннай размовы з Ельцыным, якая адбылася ў той жа дзень у перапынку перагавораў з Я. Прымаковым, былі абмеркаваны пытанні двухбаковага супрацоўніцтва, у тым ліку і сітуацыя з журналістамі ГРТ. "Мы знайшлі развязкі па ўсіх пытаннях,— падкрэсліў А. Лукашэнка.— Мы павінны вырашыць праблему ў прававым полі, і гэта пацвердзіў Барыс Ельцын. Мы павінны знайсці рашэнне, неабходнае для нашага Саюза". На думку беларускага лідэра, у Барыса Ельцына не хапае інфармацыі, і беларускі Прэзідэнт выказаўся за тое, каб абмеркаваць усё ў час асабістай сустрэчы з расійскім лідэрам. Такая сустрэча, відаць, можа адбыцца на пачатку верасня, калі будзе адзначацца 850-гадовы юбілей Масквы, куды наш кіраўнік будзе запрошаны.

НА ЗДЫМКУ: Яўген ПРЫМАКОЎ і Аляксандр ЛУКАШЭНКА ў час перагавораў у Мінску.

ЭКАНОМІКА

### ІНФЛЯЦЫЯ ПАЙШЛА НА СПАД

Відаць, інфляцыю ў краіне нарэшце ўдалося ўтаймаваць. Калі ў чэрвені яе ўзровень быў 4,5 працэнта, то ў ліпені — ужо 1,4, а за першыя два тыдні жніўня — 0,4 працэнта.

У жніўні больш за ўсё патаннела агародніна — на 20 працэнтаў. Толькі на нейкую частку працэнта патаннелі мяса птушкі, селядцы, рыбныя недалікатэсныя кансервы, цукар, паслугі міжгародніх цягнікоў. Затое значна павялічыўся кошт хлеба і хлебабулачных вырабаў. Напрыклад, батон з пшанічнай мукі першага і другога гатунку цяпер прадаецца даражэй на 10, а хлеб масавых гатункаў і паўфабрыкат ялавічны бескасцёвы — больш чым на 5,5 працэнта.

Па ранейшаму кошту куплялі сыры плаўлены і сычужны цвёрды, яйкі курыныя, маргарын сталовы, гарэлку, посуд, аказваліся паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, дашкольных устаноў, санаторна-курортныя, гарадскога транспарту і прыгарадных цягнікоў. Не павышалася плата за карыстанне індывідуальным хатнім тэлефонам.

ПЕРСПЕКТЫВЫ

### БЕЛАРУСЬ — ЕЎРАПЕЙСКАЯ ДЗЯРЖАВА

Перспектывы далейшага супрацоўніцтва Беларусі з Еўрапейскай камісіяй (ЕК) у эканамічнай, культурнай і адукацыйнай сферах сталі асноўнай тэмай сустрэчы прэм'ер-міністра нашай рэспублікі Сяргея Лінга з паслом ЕК у Беларусі Луісам Марэна.

Перад размовай пан Марэна заявіў, што для Еўрапейскай камісіі Беларусь з'яўляецца еўрапейскай дзяржавай. І для выканаўчага органа Еўрасаюза, якім з'яўляецца ЕК, вельмі важна бачыць, што тая стратэгія, тыя праекты, якія праводзіліся пры дапамозе гэтай арганізацыі ў краінах Еўропы, зусім нармальна ўкараняюцца і ў Беларусі.

Еўракамісія гатова прапанаваць беларускаму боку некалькі праектаў. Адзін з іх тычыцца перакладу на беларускую мову ўсіх дакументаў Еўрапейскага саюза. Відавочна, у самы бліжэйшы час будзе заключаны дагавор з Беларускім дзяржаўным універсітэтам аб выкананні гэтай работы спецыялістамі навучальнай установы. Увогуле ж Еўракамісія гатова выдзеліць на рэалізацыю праектаў у галіне адукацыі, культуры і падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі 5 мільёнаў ЭКЮ.

СВЯТЫНЯ

### СААЎТАР З'ЯВІЎСЯ ПРАЗ ВОСЕМ СТАГОДДЗЯЎ

Копія крыжа Ефрасінні Полацкай, зробленая брэсцкім мастаком Мікалаем Кузьмічом, перададзена Беларускай праваслаўнай царкве. Урачыстая цырымонія передачы адбылася ў Свята-Сімяонаўскім кафедральным саборы Брэста.

Пяць гадоў спатрэбілася Мікалаю Кузьмічу, каб узнавіць вядомы крыж, выраблены ў XII стагоддзі майстрам з Полацка Лазарам Богшам. Паводле слоў Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, карпатлівая праца брэсцкага мастака была сапраўдным подзвігам.

Аснову крыжа складае кіпарысавае дрэва, прывезенае з Ерусаліма і асвячонае на Гробе Гасподнім. Яго пакрываюць пазалочаныя і залатыя пласціны, упрыгожаныя выдатнымі эмалямі, каштоўнымі камянямі, горным хрусталём. Каля паўтысячы жэмчугаў абрамляюць верхнюю частку. З абодвух бакоў крыжа ўзноўлены дваццаць эмалевых мініяцюр з выявамі святых, архангелаў і апосталаў. У пяці падпісаных гнёздах знаходзіцца кроплі крыві Хрыстовай, часцінка дрэва жыватворнага Крыжа Гасподняга, кавалачак каменя ад Гроба Багародзіцы і часцінкі мошчаў святых, закладзеных у крыж па асобаму царкоўнаму звычаю.

Паводле старадаўняга падання, жыватворны крыж прападобнай Ефрасінні Полацкай, згублены ў Магілёве ў гады апошняй вайны, дапамагаў хворым і ўсім, хто прыходзіў яму пакланіцца.

ПЕРАЖЫТАЕ



Наталля СВІТКОВА (на здымку) пражыла доўгае і нялёгкае жыццё. Пераматчы многія нягоды дапамагла ёй вера ў Бога. З гэтым жыве і цяпер у свае 86 гадоў. У роднай вёсцы Грыбаны Магілёўскага раёна яе часта запрашаюць на памінальныя абрады, на пахаванні. І заўсёды на гэтых рытуалах Наталля Архіпаўна са сваёй хатняй іконай Маці Божай.

ПІКЕТ ТБМ

### ПРАБЛЕМА БЕЛАРУСКАМОЎНАГА НАВУЧАННЯ

Напярэдадні пачатку новага навучальнага года Таварыства беларускай мовы правяло ў Мінску санкцыяніраваны пікет. Актывісты ТБМ ставяць мэтай прыцягненне ўвагі грамадскасці да небяспечнай тэндэнцыі закрыцця беларускамоўных школ і класаў, якая назіраецца ў апошнія гады.

Плакаты з надпісамі "Вы забралі мову ў нашых дзяцей, пакіньце яе нашым унукам!", "Беларуская школы ў Мінску: 1994 — 120, 1996 — 17, 1997 — !" не пакідалі раўнадушнымі нават выпадковых прахожых. Як сцвярджаюць арганізатары акцыі, многія з іх з разуменнем паставіліся да выбучаных патрабаванняў. Даволі прыязна паводзілі сябе і прадстаўнікі праваахоўных органаў, якія назіралі за праведзеннем пікета. Чакаецца, што пазіцыя ТБМ будзе пэўным чынам прадэманстравана і ў іншых гарадах Беларусі.

«АКІЯН РП-245»



Пасля значнага перапынку аднавіў выпуск новага радыёпрыёмніка "Акіян РП-245" мінскі завод "Гарызонт". Ад сваіх папярэднікаў гэты апарат адрозніваецца эканамічнасцю, меншымі габарытамі, працуе ва ўсіх дыяпазонах, уключаючы ультракароткія хвалі.

Сабрана першая партыя са ста прыёмнікаў, якія ўжо выстаўлены на продаж.

НА ЗДЫМКУ: рэгуліроўшчык радыёапаратуры Уладзімір МІХАЙЛАЎ з новым прыёмнікам "Акіян РП-245".

ЭСТРАДА

### АДКРЫТЫ ТЭАТР

У маі гэтага года ў Мінску адкрыўся Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады, а 27 жніўня Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка наведаў яго, каб пазнаёміцца з творчымі планамі калектыву.

На правядзенне рэканструкцыі будынка і яго рамонт, а таксама на набыццё гукавога і святлотэхнічнага абсталявання кіраўніцтва справамі Прэзідэнта выдзеліла 11,3 мільярда рублёў.

Мастацкі кіраўнік тэатра заслужаны артыст рэспублікі Алег Ціўноў і музычны кіраўнік тэатра народны артыст Беларусі Васіль Раінчык расказалі, што прафесіянальная трупа будзе сфарміравана з тых, хто пройдзе адборачны конкурс, які прадоўжыцца 25 дзён. А 1 кастрычніка ў тэатры ўжо адкрыецца новы сезон. На сцэне выступяць прэтэндэнты на права стаць стыпендыятамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта краіны па падтрымцы таленавітай моладзі. У рэпертуары тэатра плануецца ўдзел цяперашніх і будучых зорак айчыннай эстрады.

КУЛЬТУРА

### «ХАРОШКІ» Ў ШВЕЙЦАРЫІ

У швейцарскім горадзе Фрыбургу адкрыўся 23-ці міжнародны фестываль фальклорнага мастацтва.

Дзесяткі вядомых калектываў з многіх краін Еўрапейскага кантынента кожны год дэманструюць тут сваё майстэрства. Гэтым разам запрашэнне на ўдзел у фестывалі з удзячнасцю прынялі артысты беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі".

### З ЖЫВЫМ СЛОВАМ — НА БЕЛАСТОЧЧЫНУ

На Беласточчыне пачалася традыцыйная творчая вандроўка тэатра "Жывое слова", які існуе пры Мінскім педагагічным універсітэце. Тэатральная група, да якой далучыліся шматлікія мясцовыя аматары беларускага слова, на працягу тыдня наведае шэраг вёсак, жыхары якіх у пераважнай большасці з'яўляюцца этнічнымі беларусамі — Ланева, Курашова, Койлы, Шастакова, Чыжы, Збуч, Мора... Падчас спектакляў і спеваў "Жывога слова" вяскоўцы самі становяцца ўдзельнікамі розных беларускіх абрадаў. Акрамя таго адбудуцца спатканні мінчан з мясцовай моладдзю ля вогнішча. Дарэчы, дарогу туды і назад тэатру сёлета прафінансуе Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей.

КУПІЛІ ПАРАВОЗ



Раней цяпло і пару заводу асбацэментавых вырабаў аб'яднання "Крычаўцэментшыфер" давала ЦЭЦ. Калі гэта стала дорага, знайшлі іншае рашэнне. Купілі паравоз, цяпер ён дае пару і цяпло прадпрыемству. Ад яго працуюць тры лініі, дзе робяць шыфер. Гэта намнога танней.

НА ЗДЫМКУ: крыніца цяпла і пары для завода — паравоз.

ЗДАРЭННІ

### ПЕРАКУЛІЎСЯ ГРУЗАВЫ ПОЕЗД

23 жніўня ў 12 гадзін 54 хвіліны за 150 метраў ад барысаўскага чыгуначнага вакзала пры руху грузавога поезда з Мінска ў Оршу адбылася аварыя: поезд сышоў з рэек і перакуліўся. Удалося ўстанавіць, што прычынай здарэння стала няспраўнасць колавай пары адной з цыстэрнаў, якая належала Уфімскаму нафтаперапрацоўчаму заводу. У саставе поезда знаходзіліся 32 цыстэрны з бензінам, 24 цыстэрны з рэшткамі прапан-бутану, а таксама 10 крытых вагонаў з рознымі грузамі.

Сітуацыя адразу ж ускладнілася тым, што 32 адзінкі рухомага саставу загарэліся. У выніку пажару ўзнікла небяспека выбуху цыстэрнаў з лёгкімі на загаранне вадкасцю і гаручым газам. Тым больш агонь, які "лізаў" састаў, кожную хвіліну мог перакінуцца на рухомы састаў, які стаяў паблізу, будынак чыгуначнага вакзала, жылля і вытворчыя памяшканні.

Як стала вядома, у ходзе работ па ліквідацыі агню атрымаў апёкі 35 працэнтаў паверхні цела пажарны аварыйна-выратавальнай часці атрада ваенізавана-пажарнай службы Барысава малодшы сяржант Хоміч. Іншых ахвяр быццам бы няма. Што датычыцца грузавога саставу, то агнём пашкоджана 8 чыгуначных цыстэрнаў з бензінам, 20 — з прапан-бутанам, адзін вагон з імпартным півам, адзін — з гумава-тэхнічнымі вырабамі і дзве платформы. Расследаванне гэтага здарэння зараз праводзіць Мінская транспартная пракуратура.

## СВЯТА ДЛЯ ЎСІХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Звычайна мы не вельмі любім, калі нешта паўтараецца: сумна. Але ёсць рэчы і з'явы, непазбежнага надыходу якіх нават чакаем — як сведчання таго, што з намі ўсё нармальна, жыццё рухаецца, прычым у патрэбным накірунку. Мы ўпэўнены: за ноччу надыдзе дзень, за зімою прыйдзе лета, за летам — восень, і тады дзеці, як заўсёды, як і мы калісьці, пойдуць у школу. І колькі б разоў ні наступаў гэты доўгачаканы дзень першага верасня — ён заўсёды будзе святам, у нечым узнёслым, крыху шчымлівым і настальгічным.

Як і ўсякае свята, пачатак навучальнага года патрабуе адпаведнай і немалой падрыхтоўкі і, канешне ж, матэрыяльных затрат, што з кожным годам павялічваюцца. Вось і сёлета школьнікі і іх бацькі даведаліся: на змену даволі працягламу перыяду бясплатных школьных падручнікаў прыйшоў час платных. Напрыклад, за камплект навучальных кніг для шасцікласнікаў неабходна прынесці ў школу 120 тысяч рублёў, для выпускнікоў-адзінаццацікласнікаў патрабуецца адпаведна ў два разы болей. У некаторых школах, асабліва так званых "элітарных", унутраныя правілы патрабуюць нашэння спецыяльнай школьнай формы — яе кошт прыблізна 700 000 рублёў. А колькі спатрэбіцца розных школьных прылад: сшыткі, ручкі, алоўкі, альбомы, фарбы... Кошт набору фарбаў — пяцьдзесят тысяч, кітайскі набор з шасці каляровых алоўкаў — дваццаць, столькі ж трэба аддаць за альбом для малявання ў малодшых класах і невялікую каробку звычайнага пластыліну... Магчыма, нашым чытачам цяжка зарыентавацца — многа гэта ці мала? Для параўнання адзначым: апошнія афіцыйныя звесткі сцвярджаюць: сярэдняя заработная плата ў краіне прыкладна два з паловай мільёны беларускіх рублёў. Калі збіраць у школу дваіх вучняў і акрамя касцюма купіць, скажам, чаравікі (дзеці растуць так хутка!), гэтых грошай не хопіць. А трэба яшчэ неяк жыць і карміцца пасля першага верасня. Да таго ж нават такую "сярэднюю" зарплату атрымлівае далёка не кожны працуючы ў Беларусі...

І ўсё ж першы дзень восені застанецца святочным. Цудоўна, бо насуперак усім цяжкасцям і перашкодам — жыццё працягваецца...

**Г. УЛІЦЁНАК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# БЯДА ХОДЗІЦЬ НЕ ПА ЛЕСЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На сёння тут знаходзіцца каля шасцідзесяці дзяцей, якія паступілі сюды на лячэнне і абследаванне з усёй рэспублікі.

Калі гаварыць аб эфектыўнасці лячэння раку ў Беларусі, то па такіх лакалізацыях, як пухліна нырак і лімфагранулематоз, тут вынікі не горшыя, чым, напрыклад, у Германіі і Англіі. Па іншых лакалізацыях ёсць адставанне, звязанае з дыягнастычнымі магчымасцямі цэнтра. Са станоўчымі вынікамі штогод раз'язджаюцца па дамах 65 працэнтаў пацыентаў, па асобных лакалізацыях раку гэтая лічба дасягае 100 працэнтаў. Тым не менш, рак ёсць рак, і штогод у аддзяленні паміраюць 12—14 дзяцей, не лічачы тых, каго з безнадзейным дыягназам выпісалі дадому.

Бывае, што бацькі, не верачы ў айчынную медыцыну і спадзеючыся на цуд, дабіваюцца магчымасці лячыць сваё дзіця за мяжой. Аказалася, што недавер да ўласных урачоў — праблема інтэрнацыянальная: кіраўнік цэнтра доктар Рэйман Ісмаіл-Задэ асабіста быў сведкам сітуацыі, калі ў Англіі бацькі запатрабавалі лячыць іх дзіця толькі ў Амерыцы. Праз прэсу і дабрачынныя арганізацыі была сабрана неабходная сума, авіякампанія "Канкорд" узяла на сябе кошт пералёту, выдзеліла спецыяльную медсястру, і маленькі пацыент адправіўся за акіян. Скончылася гэтая гісторыя, на жаль, таксама вельмі тыпова: праз тры месяцы яго ў самым цяжкім стане даставілі дадому, дзе ён на наступны дзень памёр. У Рэспубліканскім цэнтры дзіцячай анкалогіі імкненне бацькоў дапамагчы свайму дзіцяці любым шляхам, у прыватнасці, лячэннем за мяжой разумеюць, але лічаць, што тут патрэбны дыферэнцыраваны падыход, бо кожная пухліна — біялагічны феномен, і выбар месца лячэння ўплывае на яго далёка не заўсёды, тым больш, што тут працуюць па тых жа схемах і тымі ж медпрэпаратамі, якія сёння выкарыстоўваюцца на Захадзе. Хаця аперацыі, звязаныя, напрыклад, з заменай сустава, дзе неабходны дарагі пратэз з спецыяльнага сплаву, выраблены дакладна па памеру косцемазгавога канала пацыента, без усялякага сумнення, лепш адпрацаваны за мяжой.

У былыя часы неабходнымі прэпаратамі Рэспубліканскі цэнтр поўнасцю забяспечвала дзяржава, і трэба прызнаць, што рабіла гэта зусім нядрэнна, ва ўсякім выпадку, анкалагічныя хворыя лякарствы атрымлівалі па бясплатных рэцэптах, урачоў праблемы забеспячэння аддзялення медыкаментамі і апаратурай не закраналі, дазваляючы ім займацца сваёй асноўнай справай — лячэннем хворых. Сёння сітуацыя з проціпухліннымі прэпаратамі рэзка пагоршылася, ставячы пад пагрозу не толькі вылечванне, але і жыцці пацыентаў Рэспубліканскага цэнтра дзіцячай анкалогіі.

Барацьба са злаякаснай пухлінай абыходзіцца вельмі і вельмі дорага. Лячэнне раку ў дзіцяці ад пачатку да канца, якім бы ён ні быў, каштуе як мінімум 30 тысяч долараў. Сюды ўваходзіць кошт медыкаментаў, біяпсія, прамянёвая тэрапія, а ў выпадку неабходнасці і аперацыя. На Захадзе гэтая лічба значна вышэйшая, але зусім не з-за кошту медпрэпаратаў ці працэдур. Проста там праца ўрачоў, медсёстраў, выхавальнікаў і санітарак ацэньваецца невымерна вышэй, чым у Бараўлянах.

У Беларусі проціпухлінныя прэпараты не вырабляюцца, таму практычна ўсе лякарствы, што выкарыстоўваюцца пры лячэнні, — імпартныя. Нязначную частку іх пастаўляе Расія, тоесёе — Прыбалтыка, у асноўным жа лякарствы тут атрымліваюць з далёкага замежжа. У мінулым годзе Міністэрствам аховы здароўя было закуплена дастаткова проціпухлінных прэпаратаў, тут гэта напрамую звязваюць з тым, што былы міністр аховы здароўя сама была ўрачоманколагам і разумела ўсе патрэбы і праблемы лячэння ракавых хворых. У гэтым годзе закупак проціракавых прэпаратаў у патрэбным аб'ёме не прадбачыцца.

Трэба адзначыць, што ў дзіцячай анкалогіі ёсць свае спецыфічныя рысы. Так, дзеці вельмі дрэнна пераносяць паказаную дарослым прамянёвую тэрапію, а таму стратэгіяй лячэння становіцца эфектыўная хіміятэрапія, да якой адчувальныя дзіцячыя пухліны. У сваю чаргу, асаблівасць хіміятэрапіі заключаецца ў тым, што ўводзіць проціпухлінныя прэпараты трэба, вельмі строга прытрымліваючыся схемы лячэння, таму што калі не захоўваць інтэрвалы паміж курсамі, узнікае прывыканне да прэпарата, і наступны раз лякарства проста не дасць неабходнага эфекту. Таму ў дзіцячай анкалогіі асабліва востра стаіць праблема своечасовага забеспячэння неабходнымі медпрэпаратамі.

Апошнія гады праблему забеспячэння проціпухліннымі лякарствамі і медыцынскім абсталяваннем Рэспубліканскаму цэнтру дзіцячай анкалогіі дапамагалі вырашаць замежныя дабрачынныя арганізацыі. Рэйман Ісмаіл-Задэ па стыпендыі замежнага дабрачыннага фонду год працаваў у англійскай клініцы і нямала сіл прыклаў, каб пераканаць тых жа англічан, што дапамагаць сёння трэба ў першую чаргу нам, беларусам, таму што менавіта тут быў Чарнобыль, за які сёння ракам шчытападобнай залозы і іншых органаў расплачваюцца нашы дзеці. Былі наладжаны сувязі і з вядомай дабрачыннай арганізацыяй "Angel's International", з нямецкай арганізацыяй "Дапамога ў бядзе", з аналагічнымі арганізацыямі ў Швейцарыі і іншых краінах. Практычна ўсё медыцынскае абсталяванне, якое сёння мае аддзяленне дзіцячай анкалогіі, паступіла туды па гуманітарнай дапамозе. Наркозны апарат і кардыяманітор падораны "Міжнароднымі анёламі", за дэфібрылятар трэба сказаць дзякуй амерыканцам, а за інфузійныя помпы — швейцарцам і немцам. Дзеці з некалькіх агульнаадукацыйных нямецкіх школ кожны год збіралі грошы, каб потым на іх набыць сістэмы для пераліванні крыві і пераслаць іх у Беларусь. Увогуле, з невядомымі іншаземцамі наладжваць кантакты і дамаўляцца аб пастаўках абсталявання і медпрэпаратаў аказалася значна прасцей і больш надзейна, чым з родным Міністэрствам аховы здароўя. Аднак, мяркуючы па апошніх падзеях, гэты канал ужо практычна перакрыты, а аб тым, што будзе далей, тут проста баяцца думаць. Не так даўно прадстаўнікі "Angel's International" па старой звычцы напярэдадні свайго прыбыцця ў Беларусь пазванілі ў аддзяленне, каб высветліць, у якіх прэпаратах там маюць патрэбу больш за ўсё. Ім быў пасланы факс з пералікам самага неабходнага. "Цёплы" прыём, аказаны таможнікамі англічанкам у аэрапорце "Мінск-2", прывёў жанчын у шок. Гуманітарная дапамога была адпраўлена на таможныя склады. Між тым, там знаходзіліся прэпараты, якія хутка псуюцца, тэрмін годнасці якіх не быў разлічаны на доўгія таможныя і іншыя бюракратычныя працэдуры.

Службовыя асобы — таксама людзі, і калі размова ідзе пра дзяцей, якія могуць памерці без неабходных лякарстваў, іншы раз закрываюць вочы на інструкцыі і дазваляюць без доўгатэрміновых працэдур узяць некаторыя медыкаменты, якія хутка псуюцца, так што дзеці выжываюць не дзякуючы закону і дзяржаве, а насуперак ім. Менавіта так доктару Ісмаіл-Задэ ў парадку выключэння аддалі частку грузу англійскай гуманітарнай дапамогі з умовай не адкрываць пакеты да праходжання афіцыйнай працэдуры. Два месяцы ў яго кабінеце ляжаць мяшкі з лякарствамі і апаратурай, якія ён не мае права адкрыць. За гэты час частка медыкаментаў, што жыццёва неабходныя дзецям, прыйшлі ў непрыгоднасць. Разумеючы ўсё гэта і адчуваючы адказнасць за жыццё дзяцей, доктар Ісмаіл-Задэ звоніць на склады, у Цэнтральны таможны камітэт, Савет бяспекі... Хаця, мяркуючы па ўсім, блуканні Ісмаіл-Задэ — гэта яшчэ не самае горшае, што можа сёння напаткаць урача. Заходнія дабрачынныя арганізацыі, справядліва не давяраючы айчыннай бюракратыі, вельмі часта аказваюць гуманітарную дапамогу адрасна — на імя таго ці іншага аддзялення ці нават канкрэтнай асобы, якая ўзначальвае яго. Што тычыцца міжнародных дабрачынных арганізацый, то яны таксама зрабілі свае вывады, так што, трэба думаць, што ў хуткім часе гуманітарных грузаў паменшыцца, затое прыбавіцца клопатаў у тых, хто вельмі зацікаўлены ў наяўнасці лекавых прэпаратаў. Прычым, няма ніякай упэўненасці, што гэта стане праблемай дзяржаўных структур. Ва ўмовах, калі скарачаюцца дзяржаўныя пастаўкі проціпухлінных прэпаратаў, а гуманітарныя грузы прыходзяць у непрыгоднасць з-за валакіты на таможні і іншых інстанцыях, а хутка і зусім перастануць паступаць, набыццё лекаў ляжа на плечы тых, каму яны больш за ўсё патрэбныя — бацькоў хворых дзяцей. Прэцэдэнты ўжо маюцца: неабходныя лякарствы набываліся бацькамі за свае грошы ў камерцыйных аптэках. Пры гэтым варта помніць, што анкалагічныя прэпараты вельмі дарагія, і вылечыць хворае дзіця за свой кошт змогуць толькі вельмі багатыя бацькі.

Адчуўшы на сабе, што бяда ходзіць па людзях, а не па лесе, бацькі хворых на рак дзяцей стварылі камітэт, які ў сілу сваіх невялікіх магчымасцей спрабуе дапамагчы Рэспубліканскаму цэнтру анкалогіі вырашыць свае праблемы. Як паказаў вопыт, дапамагаюць толькі тыя, каго трагедыя закранула асабіста. Так, многа зрабіў для аддзялення вядомы беларускі дырыжор Ігар Мацюхоў, які пра гэтую бяду ведае не па чутках, аднак сур'ёзных спонсараў у аддзялення няма. Між тым, міжнародны вопыт паказвае, што менавіта добраахвотныя ахвяравальнікі і недзяржаўныя фонды дапамагаюць вырашыць праблемы анкалагічных хворых. Іншая справа, што за рубяжом ствараюцца ўсе ўмовы для таго, каб праяўленне велікадушнасці і міласэрнасці было справай не толькі богаўгоднай, але і выгаднай, усяляк заахвочваючы гэта разумнай падатковай палітыкай. У нас жа дзяржава, будучы не ў стане забяспечыць жыццёва неабходнымі медыцынскімі прэпаратамі сваіх хворых грамадзян, робіць перашкоды тым, хто спрабуе зрабіць гэта за яго. Чыноўнікі, якія адпраўляюць на таможныя склады лякарствы, ад своечасовага прыёму якіх залежыць жыццё дзяцей, адводзячы вочы, гаварылі доктару Ісмаіл-Задэ: "Мы выконваем загад". Якія знаёмыя словы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

### ВЕСТКІ З БРЭСТЧЫНЫ

У Брэсце расчыніў дзверы магазін "TAIR" вытворча-камерцыйнай фірмы "TAIR — Захад". "TAIR — Захад" — адзін з філіялаў мінскай фірмы "TAIR", якая на сённяшні дзень з'яўляецца адным з лідэраў па продажу камп'ютэрнай тэхнікі ў рэспубліцы. Разгортваецца і сетка магазінаў: у Мінску іх ужо шэсць, адзін днямі запрацаваў у Віцебску, у бліжэйшых планах адкрыццё такога магазіна ў Гомелі.

# МАГАЗІН ДЛЯ БАГАТЫХ

Брэсцкі магазін быў куплены фірмай з аўкцыёна і пасля доўгай рэканструкцыі прадстаў перад пакупнікамі ў цалкам новым абліччы. Працуюць тут два асноўныя аддзелы: камп'ютэрная тэхніка і будаўнічыя матэрыялы. Праўда, пакуль пакупнікам прапаноўваецца толькі каля 700 найменняў тавараў. "Збіраюць" іх непасрэдна ў "TAIR", а вось асноўнымі пастаўшчыкамі камплектуючых з'яўляюцца замежныя фірмы. З Германіі, Паўднёвай Карэі і Польшчы дастаўляюцца дэталі для камп'ютэрнай тэхнікі, з Італіі і Іспаніі — будаўнічыя матэрыялы. Фірма плануе заключыць дагаворы і з айчыннымі прадпрыемствамі, што выпускаюць прадукцыю высокай якасці. Для прыкладу, з той жа Гомельскай шпалернай фабрыкай.

На першым месцы тут якасць. Як тавараў, так і абслугоўвання. Нездарма ж і штат работнікаў падбіраўся на конкурснай аснове: з 200 прэтэндэнтаў былі адабраны толькі 9.

Уражвае не толькі гэта. Звычайнага пакупніка — яшчэ і цэны. Так, кухонны камбайн каштуе больш за 5 мільёнаў рублёў, прас — каля 2 мільёнаў, сярэдняя цана камп'ютэра вагаецца ў межах 30 мільёнаў і г. д.

Трэба меркаваць, што "TAIR" у хуткім часе знойдзе свайго кліента. Ёсць жа і ў нас багатыя людзі. Але тое, што звычайнаму пакупніку тавары "TAIR" не па кішэні, відавочна ўжо сёння.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

*НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Напрыклад, у 1643 годзе сюды накіроўваліся купцы з Магілёва. Расказваюць дакументы і пра трагедыі 1653, 1659 і 1710 гадоў, калі ў гэтых мясцінах здарыўся страшэнны мор.

У час Паўночнай вайны ў Кабыльніках на некаторы час спыняўся шведскі кароль Карл XII.

Прыцягвае ўвагу ў Нарачы Андрэеўскі касцёл, пабудаваны на пачатку XX стагоддзя з чырвонай цэглы, помнік архітэктуры неаготыкі. Побач стаіць званіца XVII стагоддзя.

У цэнтры вёскі ў другой палове XIX стагоддзя пабудавана царква з бутавага каменю і цэглы ў псеўдарускім стылі.

* * *

Гаворачы пра нарачанскі край, многія ўжываюць выраз Мядзельшчына. Гэта звязана з старажытным Мядзелем (цяпер раённы цэнтр). Гісторыкі датуюць яго ўзрост X—XI стагоддзямі, калі ён служыў пагранічным горадам Полацкага княства. Аднак археалагічныя раскопкі выявілі ў наваколлях стаянкі людзей каменнага веку з крэмневымі прыладамі і керамічным посудам. Старажытны Мядзель знаходзіўся на востраве Мядзель. Да гэтага часу захавалася гарадзішча, надзейнасць умацаванняў якога прыкметная і цяпер. Але ў канцы XIV — пачатку XV стагоддзяў горад спыніў сваё існаванне. Легенда гаворыць, што ад маравой пошасці загінулі амаль усе жыхары. Ацалеўшыя назаўсёды пакінулі свае дамы і заснавалі новы горад на беразе суседняга возера Мястра, захаваўшы старую назву.

Да XX стагоддзя горад дзяліўся на Стары і Новы Мядзель, і гэта ўнесла некаторую блытаніну ў дарэвалюцыйныя публікацыі. Стары Мядзель быў уласнасцю многіх буйных магнатаў: Радзівілаў, Францкевічаў, Райскіх, Грабкоўскіх, Кошчыцаў. У гістарычных дакументах вядомы з 1454 года.

Новы Мядзель лічыўся каралеўскім уладаннем. У 1557 годзе ён згадваецца ў ліку каралеўскіх валасцей. На пачатку XVII стагоддзя вызначаны месцам правядзення земскіх судоў.

З 1793 года Стары і Новы Мядзель увайшлі ў склад Рускай дзяржавы.

Гораду не шанцавала і на новым месцы. Частыя пажары спусташалі яго. У народзе нават зацвердзілася павер'е, нібыта Мядзель павінен гарэць кожныя 12 гадоў. Найбольш бязлітасныя пажары былі ў 1872 і 1884 гадах. Страшным быў 1846 год, калі абрушыўся моцны голад і жыхары харчаваліся ў асноўным сасновай карой.

У другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзяў на востраве Мястра пабудавалі каралеўскі замак, злучаны з горадам драўляным мостам. І пасюль замчышча ўзвышаецца над возерам на 4 метры. Вакол замка існаваў дадатковы абарончы вал з землянымі бастыёнамі, а перад ім — шырокі роў, злучаны з возерам. Уся плошча замчышча была абаронена каменнай сцяной, таўшчыня якой даходзіла да двух метраў.

Магутныя ўмацаванні Мядзельскага замка, якія былі разбураны ў час Паўночнай вайны, доўга служылі надзейным сховішчам мясцовым жыхарам ад непрыяцеля.

У Мядзелі захаваўся арыгінальны помнік архітэктуры позняга барока — касцёл Станіслава — кармеліцкі манастыр. Заснавальнік касцёла — адзін з уладальнікаў Мядзеля Антон Кошчыц. У 1754 годзе ён пабудаваў касцёл і манастыр і запрасіў манахаў-кармелітаў. Да нашага часу ад манастыра мала што захавалася, ён значна пацярпеў у 1832 годзе, калі высветлілася, што манахі маюць дачыненне да польскага паўстання.

Манастыр карыстаўся папулярнасцю сярод мясцовага каталіцкага насельніцтва, бо Кошчыцам былі прывезены з Рыма рэліквіі кананізаванага каталіцкай царквой святога Юсцініяна.

У 1840 годзе кармеліцкі манастыр закрылі і перарабілі ў праваслаўны жаночы, таксама закрыты ў 1860 годзе. З 1866-га касцёл стаў праваслаўнай царквой.

Арыгінальная архітэктура храма. Кампазіцыйная пабудова, дэкаратыўнае ўбранне, багаты інтэр'ер значна вылучалі яго сярод іншых культавых збудаванняў XVII стагоддзя. Помнікам кавальскага майстэрства з'яўляюцца каваныя агароджы балкончыкаў.

Побач з касцёлам захаваўся будынак былога манастыра, значна перабудаваны. Званіца ўзведзена пазней, у канцы XIX стагоддзя.

* * *

Вяртаючыся да Нарачы, хочацца ўспомніць яшчэ некалькі легенд, звязаных з паходжаннем нарачанскіх азёраў.

Адна з іх расказвае, што раней тут не было возера. У наваколлі жылі працавітыя, бедныя людзі, і сярод іх — дзяўчына Аленка, душой добрая, для людзей — адкрытая, а вось прыгажосці Бог не даў. Пакутавала дзяўчына, хоць і не зусім ужо абыходзілі яе хлопцы бокам. Ішла аднойчы Аленка сумная, думала пра сваю горкую долю. Раптам бачыць: ляжыць маленькае люстэрка. Паглядзела ў яго і адразу папрыгажэла.

Чутка пра чароўнае люстра дайшла і да мясцовага багача. Быў ён вельмі непрыгожы тварам, а душой яшчэ больш страшны. Прыскакаў са слугамі на конях. "Аддавай знаходку, — закрычаў, — а не то ўсё роўна забяру!" Не хацела Аленка аддаваць яму люстэрка, размахнулася і кінула далёка-далёка. Ударылася яно аб дрэва, бліснула алмазнымі зорачкамі... І раптам не асколкі пасыпаліся на зямлю, а буйныя кроплі дажджу, які ператварыўся ў доўгі лівень. Калі ён спыніўся — людзі ўбачылі, што з'явілася вялікае возера. Аленка ж знікла. Потым да сіратлівага Аленчынага дома стала часта прылятаць чайка. Яна садзілася на пусты бераг возера і жаласліва крычала, нібыта плакала.

**Працяг.**

**Пачатак ў № 29-35.**

**Юрый АКУДОВІЧ.**

# ХРОНІКА АДНАГО ВІЗІТУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**



**Пан Гюнтэр КАМАЦКІ з работамі, падараванымі ім музею М. Шагала ў Віцебску.**

**Фота М. ШМЕРЛІНГА.**

У ліпені гэтага года Віцебск урачыста святкаваў 110-ю гадавіну з дня нараджэння свайго, напэўна, самага слыннага ўраджэнца — сусветна вядомага мастака Марка Шагала. У ліку запрошаных на свята ў горад гасцей былі і двое грамадзян Швейцарыі — уладальнік прыватнай мастацкай галерыі пан Гюнтэр Камацкі і супрацоўніца Цюрыхскай бібліятэкі, сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў пані Моніка Банькоўскі-Цюліг. Восем дзён, праведзеных імі ў Віцебску, сталі ўжо набыткам гісторыі. Наш расказ пра тыя ўражанні, што швейцарскія госці атрымалі ад Віцебска, а горад — ад іх візіту.

### ГАЛЕРЭЯ Ў МАЙЛЕНЕ

Пан Камацкі наведаў Беларусь упершыню, і Віцебск месцам свайго падарожжа абраў не выпадкова: ужо каля трох дзесяткаў гадоў ён збірае графіку Марка Шагала. "Калі займаешся творчасцю Шагала такі працяглы тэрмін, то, натуральна, узнікае цікавасць да Віцебска, гэты горад ператвараецца ў цэнтр увагі", — адзначыў пан Камацкі. Ягоная галерэя існуе з канца 1950-х гадоў і знаходзіцца ў невялікім гарадку Майлен, які размешчаны на беразе Цюрыхскага возера. Тут можна купіць творы Пабла Пікасо і Хуана Міро, аднак самую значную частку калекцыі — каля 400—500 прац — складаюць графічныя аркушы Шагала. Пытаюся ў пана Камацкі, з чаго пачалося яго зацікаўленне творчасцю Марка Шагала.

"Маё першае сутыкненне з творчасцю мастака адбылося яшчэ ў дзяцінстве. Наша сям'я да вайны жыла ў Берліне і недзе ў 1920-х гадах мой бацька набыў адну з літаграфій Шагала. Яна вісела ў нас дома, я бачыў яе кожны дзень, і гэта вельмі паўплывала на мае дзіцячыя ўражанні", — адказаў пан Камацкі. Ён нарадзіўся ў Германіі якраз напярэдадні прыходу нацыстаў да ўлады, і яго далейшы асабісты лёс, як і лёс усёй сям'і, быў цяжкім і складаным. Давялося перажыць халакост, смерць многіх родзічаў. "Да канца вайны я жыў у Германіі, — згадваў пан Камацкі, — і тады нават думкі не было аб мастацтве, трэба было проста нейкім чынам выжыць у тых складаных умовах". Падчас вайны недзе згубілася і шагалаўская літаграфія, што шмат гадоў вісела ў бацькоўскім доме. Пасля вайны пан Камацкі жыў у Турцыі, а ў 1958 годзе вярнуўся на жыхарства ў Еўропу. "Тады я працаваў інжынерам на будоўлі, — расказаў ён далей. — Аднак аднойчы падумаў аб тым, што чалавек жыве на свеце не надта доўга і таму трэба заняцца больш важнымі справамі. Так узнікла жаданне збіраць творы мастацтва і менавіта творы Шагала, бо я ўспомніў свае дзіцячыя ўражанні ад той працы, што вісела ў нашым доме. Нейкі час пасля гэтага я яшчэ працаваў інжынерам, а пазней займаўся ўжо выключна мастацтвам".

Зараз збор графікі Шагала ў галерэі пана Камацкі ў Майлене — самы вялікі ў Еўропе.

### ПАДАРОЖЖА Ў ПОЛАЦК

Пані Моніка Банькоўскі — госць у Беларусі досыць часты, добра знаны і заўсёды жаданы. Ужо не адзін год яна займаецца вывучэннем беларускай мовы, гісторыі і культуры і набыла ў гэтай галіне вялікі досвед. У яе шмат сяброў, якія жывуць у розных кутках Беларусі і наперабой запрашаюць да сябе ў госці. Віцебск яна наведала ўпершыню, хоць ужо даўно па артыкулах ды даведніках грунтоўна азнаёмілася з яго гісторыяй. Апошняя акалічнасць справіла мне нават прыемную неспадзяванку: падчас нашае экскурсіі па горадзе пані Банькоўскі перакладала на нямецкую мову для пана Камацкі інфармацыю, якая была ў некалькі разоў большая за тую, што паспявала даваць я. Яе асаблівая прыхільнасць і вялікая зацікаўленасць да вывучэння беларускай культуры паспрыялі таму, каб мы, карыстаючыся нагодай побыту ў Віцебску, у адзін з больш-менш вольных дзён выправіліся ўсёй грамадой у вандроўку да блізкага Полацка. Воляю лёсу нашай спадарожніцай аказалася яшчэ адна віцяблянка пані Ларыса Кузняцова, генеральны дырэктар сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Belwest", якая, справіўшы ў Полацку службовую патрэбу, у хуткім часе таксама далучылася да нашай культурнай праграмы.

Полацк — горад у Беларусі асаблівы, адораны Богам адметнай гісторыяй і незвычайнай унутранай сутнасцю. Няспешная на першы погляд плынь жыцця полацкіх месцічаў мае свой асаблівы змест і глыбіню. Пані Кузняцова не магла не распавесці нашым гасцям аб тым, што канцэрты класічнай музыкі ў выкананні заезджых знакамітасцяў яна лічыць за лепшае слухаць у Полацку, а не ў Віцебску: тут асабліва ўдзячны і выхаваны слухач, які сваім успрыманнем твора ўздзейнічае і на выканаўцу. Прынамсі, у гэтым нашы госці маглі ўпэўніцца і самі: зусім нечакана нам пашчасціла трапіць на канцэрт арганнай музыкі ў Сафійскім саборы.

Надзвычайную цікавасць выклікала наведванне музея беларускага кнігадрукавання. Грунтоўны расказ, прапанаваны нам загадчыцай музея пані Галінай Ладзісавай, быў з удзячнасцю сустрэты ўсімі прысутнымі і змусіў нас на працягу некалькіх гадзін з задавальненнем блукаць па залах музея, паглыбіўшыся ў свет старадаўняй і сучаснай беларускай кнігі. Пасля гэтай экскурсіі найбольшае шкадаванне пра кароткі час нашага побыту ў Полацку выказала пані Банькоўскі: ёй, як чалавеку кніжнаму, хацелася пазнаёміцца з усімі гэтымі скарбамі бліжэй, пагартаць старадрукі ці проста больш уважліва іх агледзець. Аднак справу гэтую давялося адкласці на наступны раз, бо няўхільнае набліжэнне вечара ўвесь час прымушала прыспешваць хаду. Нягледзячы на апошнюю акалічнасць, мы ўсё ж не маглі адмовіць сабе з задавальненнем хвілінку адпачыць на беразе Дзвіны і пацешыць вока задуменнай рачной плынню ды прыгажосцю задзвінскіх краявідаў.

Наведаўшы жаночы Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, мы вярталіся на машыне ў Віцебск. Абапал дарогі ўвесь час стракацелі фіялетавыя палянкі лубіну, па няскошаных сенажацях шпацыравалі даўганогія буслы. Шырокія далягляды паўночна-ўсходняй Беларусі відавочна падабаліся швейцарскім гасцям, і, нягледзячы на стомленасць і пакутлівую спёку адыходзячага дня, яны па-ранейшаму выказвалі жывое зацікаўленне да ўсяго, што трапляла на шляху. Раптам на адным з прыдарожных палёў мы ўбачылі цэлую бусліную зграю, чорна-белымі плямамі раскіданую на досыць вялікім абшары. "Буслоў тут сто сорак восем адзінак", — паведаміў грамадзе пан Камацкі. Усе засмяяліся, і спрачацца з ім не стаў ніхто: у нашым маленькім таварыстве валадарылі згода і паразуменне.

### ПАДАРУНАК МУЗЕЮ ШАГАЛА

Да таго, што ў першы тыдзень ліпеня ў Віцебск прыязджаюць вядомыя мастакі, мастацтвазнаўцы, літаратары і музыканты, гараджане даўно прызвычаіліся: гэтым летам шагалаўскія дні тут адзначаліся ўжо сёмы раз. Традыцыйнымі з'яўляюцца і шагалаўскія чытанні, якія заўсёды збіраюць нешматлікую, але надзвычай зацікаўленую аўдыторыю. Пачатак сёлетніх чытанняў быў адзначаны падзеяй асабліва прыемнай і ў пэўным сэнсе сімптаматычнай — музею Марка Шагала ў Віцебску былі падараваны адразу пяць графічных прац Майстра. Адну з іх ахвяраваў доктар Генрых Мандэль з Германіі, астатнія чатыры — пан Гюнтэр Камацкі. На наступны дзень сябры нямецкага камітэта садзейнічання Дому-музею Шагала ў Віцебску паднеслі ў падарунак яшчэ тры гравюры мастака.

У першым жа перапынку чытанняў спрабую выказаць пану Камацкі словы ўдзячнасці і павіншаваць з тым, што ён стаў першым грамадзянінам Швейцарыі, які зрабіў гораду такі падарунак. У адказ чую наступнае: "Я шкадую, што гэта менавіта так і ніхто са швейцарцаў да гэтага часу нічога не ахвяраваў Віцебску. У нас шмат прыватных галерэй, аднак яны ў асноўным збіраюць творы сучаснага мастацтва. Вы жывяце ў вельмі складаных умовах, і мне хацелася хоць нешта зрабіць для вашага горада. Я проста хацеў падаць прыклад, які, спадзяюся, пераймуць іншыя. Я ведаю, што ў Швейцарыі ёсць пэўнае кола людзей, якія гатовы і ў далейшым садзейнічаць вяртанню прац Шагала ў яго родны горад".

6 ліпеня, у дзень нараджэння мастака, на Пакроўскай вуліцы расчыніў свае дзверы мемарыяльны Дом-музей Шагала. Да гэтай падзеі Віцебск ішоў няпростым шляхам даўжынёй у шмат дзесяцігоддзяў. Сярод іншых экспанатаў на адной са сцен музея яго першых наведвальнікаў сустрэлі і працы, ахвяраваныя панам Камацкі — два афорты "Саламон на троне" і "Яўрэі нясуць скрыжалі праз Іярдан" з серыі, якая адлюстроўвае падзеі Старога запавету, і дзве каляровыя літаграфіі "Сямісвечнік" і "Леў з Іўдзеі", выкананыя Шагалам падчас працы над вітражамі ў Ерусаліме.

За гады савецкай улады ў Віцебску склалася парадаксальная сітуацыя: дзякуючы надзвычайнай папулярнасці творчасці Шагала, горад сталі ведаць ва ўсім свеце, у той час як у Віцебску не было ніводнай працы Майстра, ды і само ягонае імя свядома адлучалася чынавенствам ад роднага горада і культуры Беларусі. Сёння Шагал вяртаецца на Радзіму — праз творы друкаванай графікі, якія ахвяруюцца гораду прыватнымі асобамі і грамадскімі арганізацыямі, праз сваіх унучак Бэлу і Мэрэт Маер, якія прыехалі ў Ві-

цебск разам з першай за апошнія 70 гадоў выставай шагалаўскіх літаграфій, акварэляў і гуашаў з фонду Нацыянальнага музея Марка Шагала "Біблейскае пасланне" ў Ніцы і збору сям'і мастака.

У пана Камацкі пытаюся, ці пазнаў ён у Віцебску горад Шагала. У адказ чую кароткае і не зусім зразумелае слова: "Jain". "У нямецкай мове станоўчае сцвярджэнне азначаецца словам "ja", адмоўнае — "nein", а гэты выраз у нас ужываецца тады, калі не хочаш сказаць ні "так" ні "не", — ласкава патлумачыла сітуацыю пані Моніка Банькоўскі. "Калі б Віцебск застаўся сёння такім, якім ён быў на пачатку стагоддзя, гэта было б жахліва, — працягваў пан Камацкі. — Канечне, вельмі шкада знішчаных помнікаў архітэктуры. Аднак апроч паэтычнага вобраза горада на сваіх палотнах Шагал адлюстроўваў і цяжкі быт яўрэйскай беднаты. Віцебск тады быў вельмі бедным горадам, у якім было цяжка жыць, і калі б ён зараз застаўся гэткім жа, то жыць у ім вам было б, напэўна, не вельмі прыемна. У часы Шагала ў Віцебску было каля 68 тысяч жыхароў, пасля вызвалення горада ў часы другой сусветнай вайны засталося толькі 118 чалавек, зараз насельніцтва перавышае 350 тысяч. Я лічу, што Віцебск — вельмі жывы горад, у якога ёсць будучыня.

Маё наступнае пытанне тычылася таго, якое ўражанне ў пана Камацкі пакінулі адносіны гарадскіх уладаў да аднаўлення памяці Шагала ў Віцебску і ці не выглядаюць яны пасля стольких гадоў маўчання штучнымі і папулісцкімі. Адказ быў наступны: "Вакол таго, што ў нейкім горадзе жыў нейкі вядомы мастак, заўсёды можна ўзняць шум, зрабіць з гэтага бізнес. Калі ўлады бачаць, што трэба змяніць курс у адпаведнасці з імкненнямі большасці людзей, яны гэта робяць. Аднак у мяне не склалася ўражанне, што ўсе святочныя мерапрыемствы тут носяць афіцыйны характар. Яны не выглядаюць штучнымі. Як мне здаецца, гэта ўнутраная патрэба вашых людзей".

### СВЯТА НА ВУЛІЦАХ

Свайго апагея шагалаўскае свята ў Віцебску дасягнула 6 ліпеня, перакінуўшыся з выставачных ды канцэртных залаў на вуліцы горада. З самай раніцы ў натоўпе гараджан па Пакроўскай вуліцы шпацыравалі шагалаўскія персанажы — барадатыя прадаўцы газет з вялікімі сумкамі праз плячо, вулічныя скрыпачы. На прызбах дамоў сядзелі старэйшага веку жанчыны і мужчыны ў чорных ярмолках і з відавочным задавальненнем выконвалі ролю саміх сябе. Лагодны чорны казёл па мянушцы Харошы даваў ахвотнікам магчымасць ласавацъ сябе зёлкамі і фатаграфавацца на памяць. Гучалі беларускія песні, пад канферанс традыцыйнага Несцеркі на адкрытай пляцоўцы выступалі дзіцячыя і фальклорныя калектывы. На працягу ўсёй вуліцы народныя майстры гандлявалі вырабамі з саломкі, дрэва і льну. Выхаванцы дзіцячых мастацкіх школ горада на вачах усіх зацікаўленых аддана працавалі над стварэннем вялізных супольных жывапісных палотнаў. На адным з драўляных платоў былі прымацаваны малюнкі вучняў дзіцячай студыі "Маладзік", два з якіх прыйшліся асабліва па душы пану Камацкі. Пад апладысменты выхаванцаў студыі і іх бацькоў ён тут жа набыў у аўтараў упадабаныя творы ў падарунак для сваіх унукаў. "У мяне трое ўнукаў, — сказаў пан Камацкі. — Старэйшаму, якога завуць Давід, сем гадоў. На кожны дзень нараджэння і імяніны я дару ім творы мастацтва і раблю гэта ад самага іх нараджэння. Раней, чым дзеці пачынаюць думаць, гаварыць і рацыянальна ўспрымаць свет, яны бачаць творы мастацтва, і гэта добра ўплывае на фарміраванне іх густаў і цікавасць да мастацтва. Гэтыя дзіцячыя малюнкі, што я павязу ў Швейцарыю, вельмі таленавітыя, а іх аўтары — сапраўдныя прадаўжальнікі традыцый Шагала".

Напрыканцы таго ж дня яшчэ больш маляўнічае відовішча, аздобленае натуральным каларытам вечаровых прыцемак, разгарнулася ў скверы каля гарадской ратушы. Ферычнае тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам спевакоў, танцораў і цыркавых артыстаў цёпла вітала шматлікая публіка, якая з усіх бакоў шчыльна абляпіла зялёны шматкутнік сквера ў самым цэнтры горада. Калі ж прыцемкі набылі ўжо зусім густы сіні колер, а на даху ратушы і ва ўсіх яе асветленых знутры вокнах раптам з'явіліся дзесяткі скрыпачоў у фраках, пані Банькоўскі ва ўзрушэнні прамовіла: "Што ў вас за людзі такія, яны ж усе — мастакі!.."

На наступны дзень швейцарскія госці ад'язджалі з Віцебска. Развітацца з імі прыйшлі новыя сябры, якіх яны пакідалі ў горадзе. Адна з газет, што ўжо выйшлі з раніцы, згадваючы пра падарункі, якія атрымаў віцебскі музей Шагала падчас святаў, адзначала, што ўчынкі замежных ахвярадаўцаў трэба разглядаць як "вельмі высакародны крок, сімвал новага ўзроўню сувязей Віцебска і ўсёй Беларусі са светам". "Я яшчэ збіраюся вярнуцца ў Віцебск з выставай графічных прац Шагала са сваёй галерэі, — сказаў на развітанне пан Камацкі. — Я пачуваю сябе не швейцарцам або немцам, а проста ўсходнім еўрапейцам. Я нікол не адчуваў перашкод паміж заходнім і ўсходнім светам і думаю, што кантакты паміж намі будуць пашырацца".

Што ж, будзем чакаць працягу гэтага візіту і спадзявацца, што новыя сустрэчы — не за гарамі.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

# БАРБАРА ВЕРЖБАЛОВІЧ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Рана выйшла замуж за інжынера Вержбаловіча, была шчаслівая ў сямейным жыцці. Але праз два гады муж памірае ад тыфу, а неўзабаве арыштоўваюць бацьку і старэйшую сястру, якая жыла ў Маскве. У канцы 20-х гадоў Барбара пераязджае ў Мінск, дзе ў бацькі неяк захаваўся невялічкі ўласны дом па Слясарнай вуліцы. І зноў бяда. Арыштоўваюць і забіваюць мужа малодшай сястры Анюты, а саму высылаюць у Сібір, дзе яна губляецца назаўсёды. У сястры засталася маленькая дачка Галя, якую Барбара бярэ да сябе на ўзгадаванне, і з гэтага часу іх лёсы назаўсёды пераплятаюцца.

Вялікая прага да ведаў дапамагла Барбары насуперак жыццёвым абставінам скончыць на выдатна музычныя школу і тэхнікум і ў 1933 годзе паступіць у Мінскую кансерваторыю на вакальнае аддзяленне. Курс быў невялічкі. Вучылася разам з С. Друкер, Р. Плоткінай, М. Сімага, Н. Навіцкай, К. Мурашка, Л. Дарашкевіч — у будучыні вядомымі мастакамі сцэны. Сярод педагогаў сустракаюцца такія імёны, як М. Аладаў, В. Залатароў, М. Равенскі, Э. Пілеман (Зубковіч) і інш. Вержбаловіч наведвала клас спеваў прафесараў Н. Панінай і А. Банаціча.

Са старонак архіўных дакументаў паўстае карціна як студэнцкага жыцця, так і жыцця краіны ў 30-я гады. Існуючая сістэма абмежавання правоў чалавека бязлітасна карала за ўтойванне свайго сацыяльна-"чуждага" паходжання (бацька — святар або дробны ўласнік) выключэннем з ліку студэнтаў. Не "мілавалі" і дзяцей "ворагаў народа". Катэгарычна забаранялася без дазволу пакідаць Мінск на час першамайскіх і кастрычніцкіх свят, а таксама паступаць на працу і ўдзельнічаць у якіх-небудзь канцэртах. Затое ў абавязковым парадку неабходна было здаваць нормы "Варашылаўскага стралка", вывучаць ваенную справу. Выдатнікам выдаваліся спецыяльныя пропускі з надпісам "Ударнік вучобы", па якіх абеды адпускаліся са скідкай 50 працэнтаў. Іншых за добрыя паказчыкі ў вучобе і грамадскую працу прэміравалі бюстам Сталіна, творамі Леніна, духамі, падцяжкамі, кашалькамі, іншымі галантарэйнымі рэчамі. У спаборніцтве інтэрнатаў вылучаліся лепшыя пакоі, ложкі і г. д.

Найбольшыя поспехі ў Барбары былі па прадметах: хор, мастацтва акцёра, ансамбль, оперны клас. Асабліва вылучалася Барбара ў хоры і мела толькі выдатныя адзнакі, часам адзіная на курсе. Выкладаліся і прадметы, далёкія ад музыкі, — ваенная справа, марксісцка-ленінская педагогіка, дыямат, і тут адзнакі былі пасрэднымі. Беларуская музыка, як і беларуская мова, займалі нязначнае месца ў навучальным працэсе. Выкладанне вялося па-руску, хаця многія педагогі і студэнты добра ведалі беларускую мову. Заняткі пачыналіся з 7 гадзін раніцы і працягваліся да гадзіны ночы. Не былі выключэннем і дні адпачынку. Выклікалася гэта недахопам памяшканняў, і менавіта па гэтай прычыне, пачынаючы з 1933 года, быў абмежаваны прыём студэнтаў як у кансерваторыю, так і ў музычны тэхнікум.

Па выніках вучобы Вержбаловіч не заўсёды ўдавалася атрымліваць стыпендыю. Маючы на руках маленькую пляменніцу Галю і састарэлага хворага бацьку, які, адбыўшы ссылку, прыехаў да дачкі, прыходзілася падрабляць, прапускаючы заняткі, што выклікала незадавальненне педагогаў. У лістападзе 1934 года на аб'яднаным пасяджэнні кафедраў вакальнай і агульнаадукацыйных дысцыплін пад старшынствам дырэктара кансерваторыі Багушэвіча разглядалася паспяховасць студэнтаў I—III курсаў, у тым ліку і Вержбаловіч, якая ў гэты момант вучылася на II курсе. Сама Барбара патлумачыла тройкі па некаторых прадметах неабходнасцю падработкі ў оперным тэатры і сваёй хваробай. Памер стыпендыі залежаў ад таго, на якім курсе навучаўся студэнт. Так, будучы на трэцім курсе, Барбара атрымлівала 101 рубель. З гэтай сумы патрэбна было даць грошы на абавязковую дзяржаўную пазыку, праўда, у 1936 годзе дадаткова выплачвалася хлебная надбаўка ў памеры 13 рублёў. На чацвёртым курсе стыпендыя складала 133 рублі. Грошай не хапала ўвесь час. І Барбара адначасова працавала бібліятэкарам у кансерваторыі.

Па матэрыялах, з якімі я пазнаёмілася, цяжка ўявіць, ці была Барбара актыўнай у грамадскай працы. Захаваўся пратакол справаздачнага сходу Мінгарсавета ад 25 лістапада 1934 года, на якім прысутнічалі



супрацоўнікі і студэнты кансерваторыі, музычнага тэхнікума і музычнай школы. На сходзе выступіла Вержбаловіч з патрабаваннем вырашыць пытанне з памяшканнямі для кансерваторыі; на ўскраіне горада зрабіць калодзежы для масавага карыстання, бо існуючыя з'яўляюцца рассаднікамі эпідэмій; наладзіць кантроль за зялёнымі насаджэннямі, якія нішчацца хуліганамі і жывёлай; арганізаваць работу таксі і аўтобусаў; ачысціць Свіслач і зрабіць купальню ў раёне Старажоўкі, а таксама ліквідаваць вадасцёкавыя канавы. Як па-сучаснаму гучаць некаторыя прапановы і сёння!

Скончыўшы з адзнакай у 1938 годзе Мінскую кансерваторыю, валодаючы прыгожым меца-сапрана, Вержбаловіч пачала творчую працу на сцэне Беларускага тэатра оперы і балета, дзе праявіла сябе як выканаўца характарных вобразаў у нацыянальных спектаклях "Міхась Падгорны" Я. Цікоцкага (Матка), "Кветка шчасця" А. Туранкова (Ведзьма), а таксама ў класічных операх "Вяселле Фігара" В. Моцарта, "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні, "Фаўст" Ш. Гуно, "Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага, "Кармэн" Ж. Бізэ і інш. Шмат выступала на радыё. Да лета 1941 года працавала выкладчыцай спеваў у Мінскім музычным тэхнікуме.

Напад гітлераўскай Германіі на СССР прынёс гора і паўгалоднае існаванне. Вержбаловіч не паехала разам з трупай тэатра ў эвакуацыю, а засталася ў Мінску. Беларуская інтэлігенцыя ў мэтах арганізацыі творчай, нацыянальна-культурнай дзейнасці стварыла Беларускую культурную раду, якую ўзначаліў А. Калубовіч, і Беларускае культурнае згуртаванне, пры якіх у 1942—1944 гадах існавала секцыя музычных працаўнікоў, якая аб'яднала кампазітараў, выканаўцаў, спевакоў, дырыжораў, музыказнаўцаў — А. Туранкова, М. Равенскага, А. Спаскага, А. Карповіча, М. Іванова, Р. Пукста, Н. Чамярысаву, Б. Вержбаловіч, інш. Кампазітары працавалі над новымі музычнымі творамі. Арганізоўваліся аркестры, хоры, адкрываліся музычныя школы, адбываліся творчыя выступленні па радыё. Б. Вержбаловіч у гэты час шмат працавала як эстрадная спявачка, а ў оперы "Лясное возера", напісанай у 1942 годзе М. Куліковічам, выканала партыю Свацці. Падчас вайны знайшоўся старэйшы брат Аляксандр, які жыў у Беластоку і працаваў юрыстам. Ён прыехаў да родных у Мінск у 1943 годзе, у гэтым жа годзе памёр бацька.

У чэрвені 1944 года Вержбаловіч пакінула Беларусь, выехаўшы спачатку ў Беласток, а потым у Берлін. Гэта была вымушаная эміграцыя, бо спявачка, добра памятаючы свае дзіцячыя гады і тое, як абышлася ўлада з бацькамі і сям'ёй роднай сястры, імкнулася захаваць жыццё сваё і пляменніцы. У Германіі пражывала ў лагерах для перамешчаных асоб. У цяжкі, пераломны час Барбара не замкнулася на сваіх перажываннях, пачала актыўна ўдзельнічаць у жыцці беларускай грамады, талентам спявачкі маральна падтрымліваць беларускіх эмігрантаў.

У Германіі свядомая частка беларусаў здолела нацыянальна арганізавацца, наладзіць грамадска-культурнае жыццё, значнай з'явай якога стаў Беларускі тэатр эстрады (1946—1950) пад кіраўніцтвам М. Куліковіча. Напачатку тэатр працаваў у лагерах амерыканскай акупацыйнай зоны. Артысты ігралі перад жыхарамі лагераў і салдатамі акупацыйных войскаў. Група складалася з прафесійных артыстаў мінскіх тэатраў оперы і балета, драматычнага, іншых творчых установ, сярод якіх можна назваць Н. Чамярысаву, Л. Янушкевіч, І. Жылінскую, В. Саўчанка, Б. Вержбаловіч, А. Кавалеўскага, які ў 1947 годзе ў Остэргофене арганізаваў Беларускую драматычную студыю. Тэатр аб'ехаў амаль усе лагеры трох зон Заходняй Германіі, пабываў у Даніі, Аўстрыі. Артысты прарабілі велізарную працу, папулярызуючы беларускае мастацтва сярод іншых нацыянальнасцей. За пяць год існавання паказана больш ста пастановак. Ніводнае нацыянальнае свята не абыходзілася без удзелу спявачкі Б. Вержбаловіч. Паступова Беларускі тэатр эстрады стаў адным з лепшых сярод эміграцыі з усходніх краін. Часопіс "Шляхам жыцця", які выходзіў у лагеры Ватэнштэт, адзначаў, што тэатр "выконваў вялікую нацыянальную місію сярод беларускай эміграцыі ў Нямеччыне". У тэатры Вержбаловіч была не толькі спявачкай, але выконвала абавязкі адміністратара, займаючыся эканамічнымі і іншымі пытаннямі дзейнасці трупы.

Разам з тэатрам Барбара ў 1950 годзе пакінула Германію, пераехала ў ЗША, дзе спалучыла працу на фабрыцы з актыўным удзелам у культурным і грамадскім жыцці беларускага асяродка. Ад пачатку дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтва яна з'яўляецца яго доўгагадовым сябрам, уваходзіць ва ўправу Беларуска-амерыканскага задзіночання. Вержбаловіч — адна з актывістак і кіраўнікоў беларускага жаночага руху ў ЗША. Шмат зрабіла ў аказанні дапамогі хворым і нямоглым суродзічам, якія засталіся ў Германіі і Аўстрыі.

Але асноўнай дзялянкай яе працы заставалася прапаганда беларускай культуры і мастацтва. Як канцэртная спявачка выступала разам з НадзеяйГрадэ, жонкай М. Куліковіча. Набыла славу нястомнай пашыральніцы беларускай народнай песні. Яе выкананне вызначалася музыкальнасцю, мяккасцю, лірычнасцю ў спалучэнні з высокай вакальнай тэхнікай. Яе спевы, праз якія Барбара перадавала пачуццё смутку па Бацькаўшчыне, і зараз памятаюць старэйшыя беларусы.

Лепшыя магчымасці для творчасці атрымала Вержбаловіч, пераехаўшы з ЗША ў Мюнхен. Тут у 1954 годзе пачала працу беларуская рэдакцыя радыё "Свабода", першым кіраўніком якой стаў В. Жук-Грышкевіч. На радыё Барбара праявіла сябе разнастайным супрацоўнікам. Яна была і дыктарам, і сакратаром, і спявала, спявала, спявала. У яе выкананні было запісана некалькі кружэлак. Бяда здарылася нечакана. Едучы ў аўтамабілі, Барбара трапіла ў катастрофу, і 8 студзеня 1967 года яе не стала. Выдатная беларуская спявачка загінула ў росквіце сваіх сіл і таленту, пакінуўшы багатую спеўную спадчыну. Як магла, яна працавала і спявала для народа, для Бацькаўшчыны, несла беларускую песню па ўсім свеце. Беларуская зямля дала Барбары Вержбаловіч талент і павінна яе памятаць.

**Анфіса ЛЯДНЁВА.**

**P. S. Аўтар выказвае шчырую падзяку Янку Запрудніку за дасланыя матэрыялы і звяртаецца да Галіны Ганчарэнка, іншых беларусаў, хто ведаў Б. Вержбаловіч, з просьбай даслаць свае ўспаміны пра яе ці ўдакладніць нейкія моманты з жыцця спявачкі.**

# «ПЕСНЯ БУДЗЕ ЖЫЦЬ»

Так называецца адзін з вершаў Сяргея Грахоўскага, прысвечаных Якубу Коласу. Радкі твора леглі на паперу ў той жа дзень, калі не стала песняра. Пра гэта сказаў у сваім выступленні на журботным зборы ля Коласавай магілы на Вайсковых могілках у Мінску аўтар і прачытаў верш. Прывядзём апошнюю страфу:

**Ён не паспеў аб нашым**
**грозным часе**
**Ўсяго сказаць, усіх паэм**
**злажыць.**
**Пайшоў пясняр, а песня**
**засталася,**
**Памёр паэт, а песня будзе**
**жыць!**

Пра неўміручасць песняровага слова гаварыў не толькі ён, Сяргей Грахоўскі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа, старэйшына беларускай літаратуры, але і маладзейшыя выступоўцы, удзельнікі сёлетняга ўскладання кветак на магілу незабыўнага дзядзькі Якуба ў дзень яго смерці.

Словы любові і пашаны прынеслі народнаму паэту і прачыталі вершы, прысвечаныя яму, Бацькаўшчыне, старшыня Саюза беларусіх пісьменнікаў Васіль Зуёнак, першы сакратар саюза Уладзімір Паўлаў, паэт, Коласаў зямляк, Яўген Хвалей.

Як да жывога, звярнулася да помнікавага Коласа дацэнт Белдзяржуніверсітэта Вольга Казлова. Добра яго ведала, пісала кандыдацкую дысертацыю па творчасці песняра.

"Вас любяць, шаноўны Канстанцін Міхайлавіч, студэнты-філолагі ахвотна пішуць курсавыя і дыпломныя работы па вашых творах", — зазначыла яна.

Паэт Міхась Пазнякоў гаварыў, як пачціва ставяцца да беларускай класікі ў выдавецтве "Юнацтва", галоўным рэдактарам якога з'яўляецца ён. Прамоўца паказаў прысутным і перадаў дырэктару Коласаўскага музея толькі што выпушчаную кнігу твораў для дзяцей двух песняроў — Коласа і Купалы.

Задушэўна і шчымліва прагучалі дзве, дастасаваныя да зместу падзеі беларускія народныя песні ў выкананні заслужанай артысткі рэспублікі Таццяны Мархель.

Адкрывала і вяла сустрэчу дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

**Аксана СЛЕСАРЭНКА.**



**НА ЗДЫМКУ: у час збору на Вайсковых могілках каля помніка вялікаму песняру паэт Сяргей ГРАХОЎСКІ і дырэктар музея Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ.**
**Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА.**

## У ДОМЕ ЯКУБА КОЛАСА

**Тут па начах — спакой і цішыня,**
**Чуваць, як маладзік адлічвае хвіліны.**
**На схіле лета і на сконе дня**
**Свой дом нястомны гаспадар пакінуў.**
**Плыве з нябёсаў сіняе свято,**
**Праз вокны зоркі за спакоем сочаць,**
**Усё жывое ў свеце ажыло.**
**І за парканам тры дубы шапочуць.**
**Маснічыны ад шэпту зарыпяць,**
**У каранях дубоў пульсуюць сокі,**
**Адвечныя вандроўнікі не спяць,**
**Не замаўкаюць іх ніколі крокі.**
**Дачасна дом пакінуў гаспадар,**
**А голас не замоўк ні на хвіліну:**
**З душы ў душу нясе ён вечны жар,**
**Каб зберагчы і ўратаваць Краіну —**
**Адзіны, дарагі і родны кут,**
**Тым даражэйшы, што ніколі**
**Ён, апрача знявагі і пакут,**
**Не бачыў ні дабра, ні вольнай волі.**
**Пайшоў у свет нястомны гаспадар.**
**Яго гады і бездараж не зморадь**
**Ад сэрца сэрцу несці жар**
**Нязгаслых слоў, што з душамі гавораць.**

**Іх нёс і панясе, як Боскі дар,**
**Дум і пачуццяў нашых уладар.**

*25 мая, 1997 г.*

Сяргей ГРАХОЎСКІ

З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ТАК ЖЫЛІ СЯЛЯНЕ

Яшчэ некалькі гадоў назад, паслухаўшы афіцыйных ідэолагаў, пачытаўшы іх артыкулы ці кнігі, давялося толькі няўцямна паціскаць плячыма. Няўжо і на самай справе цэлыя народы да Вялікага Кастрычніка жылі так бедна і беспрасветна, што толькі бальшавікі ўратавалі іх ад поўнага вымірання?! Канечне, у даным выпадку да ўсяго трэба падыходзіць, як кажуць, дыферэнцыравана. На той час на расійскай Поўначы і сапраўды становішча абарыгенаў было вельмі складаным. Ды і ў іншых рэгіёнах жылі багатыя і бедныя, адукаваныя і непісьменныя. Але каб суцэльная галеча? Прынамсі, на Беларусі...

Верыць, зразумела, не хацелася. Але тыя, хто выконваў партыйнае заданне (а інакш гэта, бадай, і не назавеш), таксама няблага ведалі сваю справу. Пры патрэбе знаходзілі факты, якія сапраўды "гаварылі", бо выхоплівалася негатыўнае і пакідалася па-за ўвагай тое добрае, што назіралася спакон веку.

На шчасце, цяпер гістарычная навука становіцца аб'ектыўнай, пазбаўляецца ідэалагічных крайнасцяў. Пацвярджэнне таму кнігі, што выходзяць апошнім часам. Адна з іх "Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV—XVIII ст. ст.", напісаная гісторыкам і археолагам Валерыем Шаблюком і выпушчаная выдавецтвам "Беларуская навука". Аўтар яе, на жаль, ужо нябожчык. Праўда, ён паспеў яшчэ парадавацца свайму дзецішчу, а пасля загінуў недарэчна, у выніку трагічнага выпадку: Валерыя Уладзіміравіча збіла машынай п'яная кампанія.

Мэтанакіраваным вывучэннем сельскіх паселішчаў гэтага перыяду В. Шаблюк займаўся з пачатку 80-х гадоў. А паколькі спалучаў у сваёй асобе гісторыка і археолага, не толькі працаваў над архіўнымі матэрыяламі, а і праводзіў раскопкі. У выніку палявых работ ім было даследавана больш 100 селішчаў. Пры гэтым яго цікавіў шырокі аспект праблем: рассяленне насельніцтва, гістарычная тапаграфія, планіроўка паселішчаў, а таксама гаспадарчая дзейнасць і матэрыяльная культура жыхароў. В. Шаблюк свядома абыходзіў у рабоце пытанні сацыяльнага становішча сялян, бо гэтыя аспекты з'яўляюцца тэмай спецыяльных даследаванняў.

Даследчыкам была ахоплена вялікая тэрыторыя. Як вядома, рака Нёман працякае па заходніх і часткова цэнтральных раёнах Беларусі. Верхняе ж Панямонне займае землі, што знаходзяцца ў раёне вадазбору гэтай ракі да ўпадзення ў яе Котры. "На поўначы, — як сведчыць В. Шаблюк, — гэтая тэрыторыя аддзяляецца Мінскім і Ашмянскім узвышшамі і Капыльскай градой. Рэльеф рэгіёна даволі разнастайны... Глебы ў Панямонні падзольныя, супескавыя і суглінкавыя. Найбольш урадлівыя ... знаходзяцца на Навагрудскім узвышшы, а таксама ў вярхоўях Вусы, Вушы, міжрэччы Росі і Свіслачы".

У кнізе падрабязна расказваецца, як адбывалася засяленне гэтага рэгіёна, з'яўляліся першыя паселішчы, а людзі прыстасоўваліся, як бачым, далёка не да ідэальных умоў гаспадарання. Даводзячы сваю думку, В. Шаблюк карыстаецца не толькі ўласнымі абагульненнямі, а і вынікамі археалагічных раскопак, праведзеных самім. Па неабходнасці спасылаецца на тых, хто пра гэта пісаў раней. А ў выніку атрымліваецца цэласны і пераканаўчы малюнак жыцця беларускага сялянства ў Верхнім Панямонні.

Каб уявіць яго, думаецца, ёсць неабходнасць прывесці колькі прыкладаў, якія яскрава сведчаць, што пра забітасць беларусаў у сярэдневяковыя часы можна казаць толькі з вялікай нацяжкай. Умелі нашы продкі працаваць, дбалі, каб не адным хлебам жыць. У прыватнасці, "у паселішчах Дзярэчынскага павету ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, кожны селянін павінен быў пасадзіць вакол сваёй сядзібы вербы". Ды і пра посуд дбалі, сяляне клапаціліся, каб ён быў не толькі зручным у паўсядзённым карыстанні, а і прыгожа выглядаў. Асобныя гаршкі аздабляліся арнаментамі, сярод якіх самым папулярным з'яўляўся хвалісты і лінейны. На талерках выкарыстоўваліся роспісы з разнастайнымі малюнкамі.

І пра ледзь не суцэльнае п'янства насельніцтва наўрад ці можна гаварыць, як гэта спрабавалі пісаць раней. Наадварот, людзі і тут дбалі пра ... прыгажосць. Інакш як растлумачыць, што карысталіся невялікімі кілішкамі, а рабілі іх з зялёна-бураватага і цёмна-сіняга шкла.

Але пра паўсядзённую працу

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

# КУЛЬТУРА — НАЙБОЛЬШ КАРОТКІ ШЛЯХ ДА ПАРАЗУМЕННЯ

Памятаеце афарызм пра тое, што гарматы і музы не могуць размаўляць адначасова? Звычайна так яно і здараецца. Але навал у самых складаных сітуацыях музам усё ж такі не трэба зусім маўчаць — сядзець ціха-ціха, нібы тая мыш пад венікам. Музы маюць голас, і ён павінен гучаць — упэўнена і настойліва. Часам здараецца: тое, што не паддаецца вырашэнню на ўзроўні "вялікай палітыкі", нейк само па сабе знаходзіць прымальнае выйсце з дапамогай "народнай дыпламатыі", значнай састаўной часткай якой з'яўляецца культурнае супрацоўніцтва.

Увогуле сёння на Беларусі структура міжнародных культурных сувязей досыць складаная і ажыццяўляецца як бы на трох узроўнях: першы — Міністэрства культуры краіны, другі — грамадскія арганізацыі і творчыя саюзы, трэці — калі можна так сказаць, камерцыйны. Усё гэта звенні аднаго ланцуга. Выкінь нешта — і развяліцца ўся пабудова. Калі міністэрства бярэ на сябе функцыю выпрацоўкі неабходнай заканадаўча-дагаворнай базы, то творчыя саюзы ладзяць непасрэдныя кантакты. Што тычыцца камерцыі, то, як вядома, артысту, мастаку таксама трэба есці, ды яшчэ пажадана сям'ю карміць. А спонсарская дапамога для далёкіх выездаў? Без яе зараз таксама не абысціся.

За апошнія гады ў краіне падрыхтавана неблагая юрыдычная аснова для міжнароднага супрацоўніцтва (некалькі дзесяткаў пагадненняў рознага маштабу). Зразумела, сябраваць з усім светам адразу цяжкавата. Таму і тут, як і ў вялікай палітыцы, трэба выбраць стратэгічных партнёраў. Для Беларусі гэта, у першую чаргу, Расія, краіны СНД і краіны-суседкі.

Канешне, вельмі важнымі застаюцца кантакты з ЮНЕСКА. А таму з абодвух бакоў прыкладваюцца намаганні, каб яны пашыраліся і былі плённымі. Адна з бліжэйшых акцый з магчымым удзелам ЮНЕСКА на Беларусі — міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная народнай творчасці, якая плануецца на пачатак восені. На жаль, зараз паменшала кантактаў са структурамі, што знаходзяцца пад патранажам Савета Еўропы: тут, здаецца, склалася менавіта сітуацыя з гарматамі і музамі, і памоўчваюць якраз музы. Хутчэй за ўсё, працэс актывізуецца толькі тады, калі будзе знойдзена агульнапалітычнае паразуменне і Беларусь урэшце стане членам гэтай уплывовай еўрапейскай арганізацыі.

Але тым не менш захаваліся і развіваюцца сувязі з шэрагам недзяржаўных культурных устаноў і структур. Напрыклад, з міжнароднай бібліятэчнай федэрацыяй, міжнародным камітэтам па арганізацыі фальклорных фестываляў, які ставіць сваёй першачарговай мэтай умацаванне культурных кантактаў на ўзроўні народнай, самадзейнай творчасці.

Калі нехта лічыць, што ўсё міжнароднае супрацоўніцтва абмяжоўваецца толькі паездкамі вясковага хору, той памыляецца. Спецыялісты ад культуры сапраўды ганарацца правядзеннем сёлетняй вясной Дзён культуры Беларусі ў Польшчы. Тры дні беларускія артысты выступалі на варшаўскай сцэне — нацыянальная балетная трупа, камерны аркестр, фальклорны ансамбль "Харошкі" і г. д. Прымалі ўсіх літаральна "на "біс".

Оперны тэатр гастраляваў у Бразіліі, дзе на сустрэчу з артыстамі прыбыў сам бразільскі прэзідэнт. Дарэчы, там жа паказаў сваё майстэрства Дзяржаўны ансамбль танца. У верасні павінны адбыцца Дні культуры Беларусі ў Малдове. У кастрычніку чакаем міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа-97". Нельга не згадаць таксама маючыя адбыцца на пачатку восені Дні Індыі ў Беларусі.

Дарэчы, існуе навать меркаванне, што "дэфіцыту" ў прапановах, у партнёрах на ніве культуры сёння ў нас няма. Недахоп, як водзіцца, у іншым — у грашах. Рынкавыя адносіны дыктуюць свае ўмовы, з якімі культура пакуль не заўсёды знаходзіць агульную мову. Калі браць працэнт ад агульнага дзяржаўнага бюджэту, што выдзяляецца на культуру, сам па сабе ён не меншы, чым у многіх іншых, але ўся справа ў тым, што бюджэты розныя. А паколькі еўрапейскі культурны, мастацкі рынак насычаны, правілы гульні дыктуюць тыя, у каго ёсць для гэтага фінансавыя магчымасці. Але нягледзячы ні на што, многія беларускія артысты на еўрапейскіх падмостках вельмі і вельмі званыя госці — тыя ж нацыянальны балет, опера, ансамблі "Чысты голас", "Камерата", "Харошкі"... Гэта сапраўды высокі еўрапейскі клас, менавіта такія калектывы ствараюць імідж краіны за мяжой, ладзяць тыя масты, якія яднаюць Беларусь з усім вялікім светам.

**Г. БРАТКО.**

**ВЫСТАВЫ**





**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску экспанавалася выстава жывапісу Віктара Андросава. На суд гледачоў аўтар прадставіў каля 60 жывапісных палотнаў, на якіх можна было ўбачыць і рыбака, і даярку, і механізатара, і блакітныя азёры Прыдзвінскага краю.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выставы; работа В. АНДРОСАВА "Пераможаныя".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

*З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА*

# «З-НАД ПАЛЁЎ, ДЗЕ ДЫМ СЬЦЕЛЮЦЬ БЕЛАСТОК І СУПРАСЬЛЬ...»

Хведар Ільяшэвіч, таленавіты паэт і празаік, актыўны ўдзельнік літаратурна-культурнага жыцця ў Заходняй Беларусі і потым, на эміграцыі, адносіўся да кагорты тых літаратараў, творчасць якіх у савецкі час была поўнасцю выкраслена з беларускай літаратуры, нібы яе зусім і не было. Між тым яго творчы даробак складаў арыгінальную, адметную старонку гісторыі нацыянальнага прыгожага пісьменства. Раскажам коратка пра яго жыццёвы і творчы шлях.

Хведар Ільяшэвіч нарадзіўся 7 сакавіка 1910 года ў Вільні ў сям'і паштальёна. Мяркуючы па некаторых звестках, у першую сусветную вайну сям'я была ў бежанстве ў горадзе Скапіне на Разаншчыне. Пасля вяртання на радзіму Хведар вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе ў той час выкладалі вядомыя беларускія дзеячы М. Гарэцкі, А. Смоліч, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Грыневіч, С. Паўловіч. У гімназіі праводзіліся розныя тэматычныя вечары, чыталіся публічныя лекцыі, ставіліся спектаклі. Навучэнцы гімназіі выдавалі свой ілюстраваны часопіс "Рунь", многія друкаваліся ў часопісе "Маладое жыццё". Адначасова з Ільяшэвічам у гімназіі вучыліся паэты Наталля Арсеннева, Алесь Салагуб, з якім Хведар блізка сябраваў. У гімназіі Ільяшэвіч стаў членам падпольнай камсамольскай ячэйкі, за што быў у 1927 годзе арыштаваны дэфензівай і зняволены ў Лукішскай турме, дзе правёў каля двух гадоў. Пазней вучыўся на гістарычным факультэце Віленскага універсітэта, захапіўся шматвяковай гісторыяй беларускага кнігадрукавання, яго далёкімі вытокамі. У 1936 годзе за дысертацыю "Друкарня дома Мамонічаў у Вільні" атрымыў навуковую ступень магістра філасофіі. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы ўсё ў той жа Віленскай беларускай гімназіі. Удзельнічаў у працы Беларускага навуковага таварыства, быў адным з кіраўнікоў Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Надышоў 1939 год. Рэпрэсіўны сталінскі рэжым адштурхнуў многіх сумленных працаўнікоў беларускай культуры. Шмат хто апынуўся на цяжкім раздарожжы. Падчас нямецкай акупацыі Х. Ільяшэвіч жыў у Беластоку, рэдагаваў газету "Новая дарога", быў кіраўніком "Беларускага аб'яднання ў Беластоку", рупіўся аб пашырэнні сеткі беларускіх школ на Беласточчыне. Яго жывы партрэт гэтага часу падаў М. Сяднёў у сваёй "Масеевай кнізе". У 1944 годзе Ільяшэвіч падаўся на Захад. Жыў у Заходняй Германіі. Па яго ініцыятыве ў 1946 годзе ў Германіі створана літаратурнае згуртаванне "Шыпшына". Рэдагаваў часопіс "Шляхам жыцця". У часопісе "Шыпшына" друкаваліся яго вершы. 7 лістапада 1948 года Хведар Ільяшэвіч загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Ватэнштаце. Пахаваны ў Галенсдорфе.

Пісаць пачаў вельмі рана. Першыя вершы былі надрукаваны ў часопісе "Маладое жыццё". З 1925 года актыўна друкаваўся ў "Студэнцкай думцы", "Калоссі", "Шляху моладзі", "Родных гонях" і іншых выданнях Заходняй Беларусі. Да вайны былі выдадзены зборнікі яго вершаў "Веснапесні" (1929), "Зорным шляхам" (1932), "Захварбаваныя вершы" (1936). Пісаў таксама апавяданні і абразкі. Напісаў літаратуразнаўчую працу "Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыццё і літаратурная творчасць" (1933). Ужо пасля смерці ў Ватэнштаце былі выдадзены яго "Апавяданні" (1948). За мяжой у 1982 годзе выйшаў таксама зборнік "Недапетая песня". Ладная падборка вершаў Ільяшэвіча надрукавана ў вядомым зборніку "Туга па радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі" (1992), складзеным Барысам Сачанкам. Высока ацаніў паэтычную творчасць Хведара Ільяшэвіча вядомы даследчык Арсень Ліс у зборніку "Культура беларускага замежжа" (кн. 2, 1993).

У Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі захоўваецца некалькі пісьмаў Хведара Ільяшэвіча да рэдактара віленскага беларускага часопіса "Калоссе" Янкі Шутовіча. З пісьмом ад 18.II.1938 года ён выслаў у рэдакцыю першую частку аповесці "Васіль", падпісаную псеўданімам М. Дальны; у пісьме пададзены кароткі змест працягу аповесці. Пісьмо гэта (як, мабыць, і аповесць) напісана ў Тапалянах Беластоцкага павета, адкуль паходзіла жонка пісьменніка Надзея і дзе нейкі час, відаць, жыў і сам Ільяшэвіч. Ліст ад 13.VIII. 1938 года пачынаецца з паэзіі, але, на жаль, першы аркуш гэтага ліста не захаваўся. На другім аркушы ідуць 8 апошніх радкоў верша "Расшумеліся ветры" і далей само пісьмо, у якім паведамляецца аб высылцы ў рэдакцыю двух вершаў. У гэтай жа архіўнай папцы ёсць машынапіс верша "Расшумеліся ветры" з поўным тэкстам, відаць, зроблены ў рэдакцыі "Калосся". На адвароце пісьма прыпіска неўстаноўленай асобы наступнага зместу: "Абодвы вершы — першая кляса! дык і не артачся! Пераглядаў у чарнавіку апавяданьне Дальнага "Васіль", даволі добрае. Што сюжэт крыху прыпамінае іншыя творы, гэта нічога — галоўнае яго мастацкае апрацаваньне. А ў гэтым аўтар і цікавы і арыгінальны. Дык не бунтуйся і друкуй яго, бо першую частку маеш. Затым бывай!" І далей ідзе подпіс, дзе выразна чытаецца толькі першая літара: К. Несумненна, гэта нейкі агульны знаёмы Ільяшэвіча і Шутовіча, чалавек абазнаны ў літаратуры. Перад намі першая крытычная ацэнка няскончанай аповесці Ільяшэвіча, жанр якой вызначаўся як "апавяданне". Яшчэ ў адным пісьме (недатаваным) Хведар Ільяшэвіч падае кароткія звесткі аб жыцці і творчасці. Пісьменнік цвяроза і нават іранічна гаворыць пра сябе. Звесткі прызначаліся, відаць, для анталогіі беларускай паэзіі, якую рыхтаваў тады Я. Шутовіч (планы гэтыя не здзейсніліся).

Прапануем увазе чытачоў "Голасу Радзімы" пісьмы і згаданыя ўжо творы Ільяшэвіча. Аповесць "Васіль" зусім невядомая даследчыкам літаратуры і, па нашых звестках, з'яўляецца ў друку першы раз. Верш "Расшумеліся ветры" друкаваўся (упершыню ў часопісе "Калоссе", 1938, № 3), але лічым патрэбным яшчэ раз падаць яго паводле архіўных крыніц. Гэта адзін з лепшых узораў таленавітай лірыкі Ільяшэвіча. Правапіс аўтара захоўваем.

**Яніна КІСЯЛЁВА.**

*Тапаляны, 18.II.38*

Дарагі сябра!

Пасылаю Табе палову расказу "Васіль". Думаю, што ў гэты нумар хопіць. Канец ужо, так сказаць, "намётаны" й будзе ў хуткім часе ў цябе. Дазволю сабе, аднак, асабліва не сьпяшацца, каб зьвярнуць больш увагі на мастацкі бок расказу. "Шопат зямлі" затрымай у сябе (ня згубі толькі, бо рукапісу другога я ня маю): калі буду ў Вільні, падправіцца.

Для абзнаямленьня з сюжэтам другой паловы расказу падаю кароткі яго зьмест.

Васіль прачынаецца й чакае ў лесе другога цягніка. Урэшце! У дарозе рабуюць яго заробак. Варшава. Галодны Язэп (Васіль. — **Я. К.**) на прадмесьці ледзь не памірае ўночы з голаду. Спатыкаецца з "Джонам", злодзеем, які намаўляе яго красьці. Але Васіль яшчэ маральна не зруйнаваны й (пасьля побыту ў мэліне) уцякае дахаты. Ізноў адысея Васіля. Урэшце — у хаце. Але ізноў вабяць яго далёкія агні. Адзін студэнт піша яму просьбу ў Драматычную школу. Яго прыймаюць. Бацька дае ўрэшце трохі грошы, й В[асіль] едзе вучыцца. Але стыпэндыі ён не дастае. Грошы няма. З школы выдаляюць. В[асіль] працуе ў рэвю. Там аднойчы спатыкаецца ён з Джонам, якому расказывае свае перажываньні. Джон радзіць яму ізноў красьці. В[асіль] згаджаецца толькі паказаць "Джону" сэкрэтарку школы й памагае яму напасьці на яе, калі яна йдзе першага з пошты. В[асіль] уцякае ў мястэчка. Але тут яго арыштоўваюць.

Такі сюжэт.
Ідэя, здаецца, ясная сама сабой.
Цісну руку —

Хведар.

Але на марках я зьбяднею! Прынамсі хоць пішы часьцей!

**(Працяг будзе).**

# ЛЕТАПІСЕЦ НАШЫХ ДЗЁН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Яго "Прыстасаванцы" былі як гарачая галуза, сунутая ў гадзюшнік. Які ўзнімаўся вэрхал! А ён з сваёй далечы прадбачыў сённяшні незразумелы дзень і пакутаваў за будучыню краіны. Патрэбны доказы? Яны ў кожнай кнізе: "Магутныя бюракраты ўласным сцвярджэнням рады: "Гаворыш па-руску — інтэрнацыяналіст, гаворыш па-беларуску — нацыяналіст". І канцоўка: "Гэта ўжо не світанне. Гэта наша настала змярканне, гэта з мовай маёй, гэта з песняй маёй развітанне".

Як ён мог прадбачыць наступ зацятага чыноўніцтва на ўсё роднае і непаўторна дарагое?

Гэта клопат патрыёта, адданага сына Радзімы. Ён з 1939 па 1946 год адстойваў волю роднай зямлі, свой народ, яго будучыню са зброяй у руках на розных франтах Айчыннай вайны. Ён пісаў вернападданыя камунізму вершы, бо так быў выхаваны, ачмураны прыгожай дэмагогіяй і хлуснёй. Пісаў шчыра, пакуль не стаў відушчы, празорлівы і адважны, як і на фронце. Ён не ведаў хітрасці, крывадушнай дыпламатыі. Адкрытасць і шчырасць — яго існасць, крэда і характар.

Паэта Панчанку я адкрыў са спазненнем далёка ад дому і волі. У 1944 годзе выпадкова трапіў часопіс "Беларусь". "Югаслаўскі" цыкл Панчанкі зачараваў мяне кожным радком, і словам, і імем аўтара — гучным і былінна рэдкім.

Калі ў 1956 годзе нас лёс звёў у Каралішчавіцкім доме творчасці, мяне кранула Піменава спагада і чуласць. Разгаварыліся і ўстанавілі, што ён у 1931 годзе змяніў мяне на педальнай піле ў беладрэўным цэху Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната. Ён успамінаў пра свае паходы ў рэдакцыю газеты "Камуніст", пра першыя публікацыі. Потым кожны год летавалі ў Каралішчавічах. Пімен звычайна з сям'ёю жыў у маленькім "фінскім" доміку. Любіў адзін блукаць па лясных сцежках і гушчарах. Пры сустрэчы пытаўся ў яго, ці многа назбіраў радкоў. Ён адказваў жартам, а ў вершы "Сэрца" прызнаваўся:

**І чым мацней расце мая нянавісць,**
**Тым гарачэйшай робіцца любоў.**
**Хаджу я з ёю па лугах і пушчах,**
**Гляджу на ўсё у радасным здзіўленні.**

Пімен Панчанка быў паэтам, пяшчотна ўлюбёным у родную зямлю, у краявіды і людзей Беларусі, ён трымаўся цвёрдай пазіцыі, увасабленнем дабра прайшоў праз усё нялёгкае жыццё.

Апошнім часам мы даволі часта пераванньваліся, абменьваліся лістамі. Для мяне было ўзнагародай яго добрае слова пра мае некаторыя ўдачы. Абмяняліся і вершаванымі пасланнямі. Адно з іх я заканчваў такімі радкамі: "На узлёце і на ўздыме Шчыры голас твой чуцён. Будзь здаровы, мудры Пімен, — Летапісец нашых дзён".

У адказ атрымаў яго кнігу "І вера, і вернасць, і вечнасць" з прысвечаным вершам і прачулым надпісам:"... мы глядзім на адны і тыя ж зоркі, травы, дрэвы, воблакі. Мы ніколі не памром ад інфаркту, а толькі ад разрыву сэрца, па-старому. Ад сэрца, пакуль яно б'ецца. Пімен Панчанка. 17.3.87 г."

Яго такое вялікае, добрае, збалелае за праўду і волю сэрца разарвалася, як апошняя граната.

Два гады няма з намі незабыўнага, неабходнага і незаменнага Пімена Летапісца. Сцяліся вусны, а гарачае сэрца б'ецца ў кожным вершы, у кожнай паэме, у кожным радку і змагаецца за светлую будучыню свайго спакутаванага народа.

Пімен заўсёды з намі.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# «ПАЛЕССЕ, ЯКОГА НЕ ВЕДАЕМ»





"Палессе, якога не ведаем". Гэтак назвалі сваю фота-этнаграфічную экспазіцыю яе аўтары — маладыя даследчыкі студэнты-этнолагі і сацыёлагі Варшаўскага універсітэта пад кіраўніцтвам выкладчыка кафедры этналогіі і антрапалогіі культуры Ганны Энгелькінг. Выстава арганізавана пасольствам Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Консульствам Рэспублікі Польшча ў Брэсце, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускім інстытутам праблем культуры, кафедрай этналогіі і антрапалогіі Варшаўскага універсітэта і прысвечана 60-годдзю даследавання Палесся польскім этнасацыёлагам Юзафам Абрэмбскім.

На Беларусі да сённяшняга дня невядомы архіўныя фота- і кінаматэрыялы, прысвечаныя Заходняму Палессю 20-х—30-х гадоў, калі яно ўваходзіла ў склад польскай дзяржавы. Палессе з яго некранутай прыродай, захаванасцю архаічных форм традыцыйнай культуры фіксавалася па тым часе фотакамерамі этнографаў, прафесійных фатографаў, проста цікаўных аматараў. Шмат калекцый, прысвечаных палескаму краю, захоўваецца сёння ў Польшчы, частка трапіла ў іншыя краіны. Сярод іх палескі архіў вядомага даследчыка, выдатнага польскага этнасацыёлага Юзафа Абрэмбскага ў Амерыцы. Унікальная навуковая скарбніца вучонага з'яўляецца уласнасцю Масачусетскага універсітэта. І сёння стаіць пытанне аб вяртанні (хаця б фотакопій) гэтага архіва на Беларусь. А ў ім жа — больш за тысячу негатываў і безліч рукапісаў.

Выстава дае магчымасць убачыць Палессе таго часу, пазнаёміцца з навуковай, фатаграфічнай спадчынай Юзафа Абрэмбскага, які не адну экспедыцыю правёў на Піншчыне, Брэстчыне, Кобрыншчыне.



Праз 60 гадоў пасля таго як Юзаф Абрэмбскі павандраваў са сваім фотаапаратам па Палессі і сабраў унікальныя матэрыялы аб жыцці палешукоў, выкладчыца Варшаўскага універсітэта Ганна Энгелькінг разам са сваімі студэнтамі зноў прайшлася яго шляхам. Таму экспазіцыя выставы складаецца з двух элементаў: чорна-белыя фотаздымкі 30-х гадоў і каляровыя — 90-х. Але часам здаецца, што старыя фотаздымкі былі проста расфарбаваныя пэндзлем таленавітага мастака. Сучасная экспедыцыя старалася выявіць і захаваць на фотастужцы тое самабытнае, каштоўнае, што вылучае Палескі рэгіён. Тут можна ўбачыць архаічныя прылады працы і побыту, старажытныя пабудовы, людзей у нацыянальных строях, увогуле можна адчуць своеасаблівы патрыярхальны лад жыцця палешукоў. Выстава з поспехам пабывала ў Брэсце, Пінску, Кобрыне, экспануецца ў Мінску.



"Палессе, якога не ведаем" — выдатнейшая падстава, каб дакрануцца да гісторыі, побыту і культуры краю, які ёсць для нас родным кутком Бацькаўшчыны.



**НА ЗДЫМКАХ: экспанаты і фатаграфіі з выставы — "Свеціца. Лунінецкі павет: Два вяскоўцы"; "Азярніца. Лунінецкі павет: Маці, якая корміць дзіця"; "Сомiна. Косаўскі павет: Бабуля, якая няньчыць унука, і сястра, якая няньчыць брата".**

# ТАК ЖЫЛІ СЯЛЯНЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

вяскоўцаў... Як устанавіў В. Шаблюк, у гэтым рэгіёне ўзровень земляробства для свайго часу быў высокі. Гэта засведчылі нават хронікі крыжакоў канца XIV стагоддзя. У іх паведамляецца, што можна атрымаць багатую здабычу і значныя запасы прадуктаў у ваколіцах Радуні і Навагрудка. Такое сведчанне асабліва важнае, бо ў саміх крыжакоў феадальная гаспадарка была добра развіта. А як пісаў яшчэ У. Пічэта, на якога спасылаецца аўтар кнігі, "прынёманскія феадальныя двары забяспечвалі хлебам тыя раёны Вялікага Княства Літоўскага, дзе яго па пэўных прычынах не хапала".

Аднак аб развіцці любога народа можна меркаваць і па тым, як развіты ў яго гандаль. Беларусам і тут было чым пахваліцца. Яны гандлявалі не толькі ўнутры сваёй дзяржавы, але і з суседзямі. Цэнтрамі ж гандлёвых зносін сялян з'яўляліся гарадскія і местачковыя рынкі. А феадальныя маёнткі пастаўлялі сельскагаспадарчую прадукцыю за межы дзяржавы. Важнейшымі цэнтрамі знешняга гандлю былі колішні Данцыг (цяпер Гданьск) і Кралявец. На рынках Германіі, Чэхіі і Італіі прадавалі беларускае жыта, футры, скуры, воск...

Што цікава, пастаўлялся нават попел. Асабліва шмат яго вывозілася з панёманскіх гаспадарак Льва Сапегі. Попел спецыяльна вырабляўся ў лясных будах. Для прыкладу, за 1598—1599 гады ў Кралявец яго адправілі 326 лаштаў (адзін лашт — 120 пудоў) і 14 бочак. Карысталіся попытам і дубовыя клёпкі.

Прыкладаў, як беларусы ў цэлым жылі заможна, можна прыводзіць шмат. Ды лепей усё ж самому пазнаёміцца з кнігай В. Шаблюка. Канечне, паколькі яна з'яўляецца навуковым выданнем, чытанне чакаецца ўдумлівае, узважанае. І карыснае, бо ёсць магчымасць пішні раз упэўніцца, як жылі нашы продкі, зірнуць праз смугу стагоддзяў, а тым самым яшчэ раз далучыцца да невычэрпнай крыніцы гістарычнай памяці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДЗЕ!

Апошнюю сваю кнігу — зборнік вершаў, паэм з назвай "Быў. Ёсць. Буду!" — Уладзімір Караткевіч, на жаль, патрымаць у руках не паспеў. Уладзіміра Сямёнавіча не стала, як вядома, 25 ліпеня 1984 года, а кніга пабачыла свет у 1986-м. І адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Прымаючы падобную акалічнасць пад увагу, выдавецтва "Мастацкая літаратура" вырашыла выпусціць згаданы зборнік другі раз, каб з ім пазнаёмілася новае пакаленне прыхільнікаў таленту У. Караткевіча. Кніга ілюстравана здымкамі Валянціна Ждановіча і Пятра Драчова, змешчаны факсіміле рукапісаў асобных вершаў Уладзіміра Сямёнавіча. А прачулае слова пра творцу гаворыць яго сябра, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рыгор Барадулін. Прадмова называецца. "Вечна. Крынічна. Зорна".

Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1244. Падпісана да друку 1.9.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.